

№ 31 (48)
Жнівень 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





# На «Крэўскіх камянях»

***З даўніх часоў да нашых дзён захаваўся своеасаблівы праклён: «Каб ты ўсё жыццё на Крэўскі замак камяні цягаў!» І сапраўды, у мінулым без сучаснага тэхнічнага абсталявання будаўніцтва абарончых замкаў было вельмі цяжкім і марудным. Напэўна, не адно пакаленне людзей змянілася, пакуль адбудавалі гэтага знакамітага сведку шматлікіх лёсавызначальных падзей у нашай гісторыі.***

Але ўсё мінае. Сёння ад магутнага калісьці замка-кастэлі засталіся толькі асколкі былой велічы. Шматлікія войны, што не раз адбываліся на Беларусі, ды няўмольная рука часу не пашкадавалі Крэўскі замак. Цяпер яго становішча можа абудзіць у сэрцы толькі спачуванне і жаль за тое, што разам са сценамі замка паволі разбураецца і наша нацыянальная самасвядомасць, забываюцца слаўныя старонкі гісторыі старажытнага Княства.

Таму не можа не радаваць і суцяшаць тое, што ёсць людзі, якія зацікаўлены ў тым, каб калі не аднавіць, то хаця б захаваць унікальны архітэктурны помнік для нашчадкаў. І, напэўна, найбольш прыемна, што кансервацыяй Крэўскага замка занялася моладзь – будучыня любой краіны і любога народа. ГКТ БДУ культуры «Этна» і МГА «Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў» арганізавалі валанцёрскі летнік «Крэўскія камяні», які размясціўся непадалёк ад рэчкі Крэўлянка, магутнай Юравай гары і, безумоўна, зусім побач з Крэўскім замкам. Падчас сваёй працы, што доўжылася звычайна да трох гадзін дня, валанцёры займаліся кансервацыяй увахода ў падземныя лёхі, па якіх, згодна з легендай, Вітаўт у вопратцы служанкі ўцякаў ад забойцы свайго бацькі Кейстута Ягайлы. Разам з працай на замку адбывалася і пераабсталяванне пад музей былой лазні, што знаходзілася насупраць. Неўзабаве, пасля наведвання мясцовых жыхароў, з'явіліся і першыя экспанаты для будучай выставы: ручнікі, гліняныя размаляваныя жбаны, ступа, гадзіннік, часалка для льну і іншыя прылады штодзённага побыту селяніна ў ранейшыя часы.

Варта адзначыць шчырасць ды адкрытасць крэўчан. Яны ахвотна пазычалі нам неабходныя інструменты, дапамагалі з даследаваннем мясцовай культуры, а таксама харчаваннем. На нашым стале заўсёды была смачная вясковая бульба і цёплае парное малако. Мясцовыя дзеці з задавальненнем наведвалі наш лагер і бавілі час разам з моладдзю, а яшчэ расказвалі легенды і паданні, што з малых гадоў чулі ад сваіх бабуль.

Подых гісторыі вельмі востра адчуваецца ў крэўскім паветры, калі ўдыхаеш яго поўнымі грудзьмі, стоячы на Юравай гары і ўглядаючыся ў маляўнічы краявід мястэчка, ці калі працуеш ля замка і дакранаешся да камянёў, што памятаюць яшчэ Кейстута, Вітаўта і Ягайлу. Невыпадкова, напэўна, і тое, што ля замка знаходзіцца буслянка. Гэтыя прыгожыя і велічныя птушкі заўсёды ўяўляліся мне старажыламі Крэўскага замка. Колькі цікавага яны маглі б расказаць нам, калі б умелі размаўляць па-чалавечы! Буслы вельмі любяць сядзець на Княскай вежы і сваім клёкатам не аднойчы дадавалі сіл валанцёрам у спякотны жнівеньскі дзень.

Пасля працы ж нас заўсёды ўвечары чакалі забаўкі. Спевы ля вогнішча, старажытныя беларускія танцы, ды шматлікія гульні яднаілі летнік і рабілі наступны дзень хоць крышачку больш вясёлым і цікавым, чым мінулы. Такім чынам, мы змаглі сумясціць прыемнае з карысным. Усе набылі новых сяброў і знаёмых, даведаліся больш пра гісторыю і культуру роднай зямлі, падмацаваліся промнямі сонейка і набегаліся басанож па зялёнай траве.

Але галоўнае – зрабілі хоць маленечкі крок у накірунку захавання Крэўскага замка, а разам з ім і народнай памяці аб часах велічы ды магутнасці, якія зведала наша краіна. І хочацца спадзявацца, што дзякуючы намаганням і распачатай справе беларускай моладзі, яшчэ доўгі час мястэчка Крэва будзе вабіць да сябе аматараў гісторыі і абарончага дойлідства. А крэўскія камяні разам з працай нашых продкаў захаваюць і цеплыню рук сваіх нашчадкаў, што ганарацца і шануюць сваю спадчыну і родныя карані.

*Ларыса ДАРАШЭНКА*

**Ад рэдакцыі:** *Віншуем нашага пастаяннага аўтара Ларысу з паступленнем на журфак БДУ!*

## Таленты 10-га выпуску беларускай школы

2004 год. Чэрвень. У Віленскай беларускай школе адбыўся 10-ы выпуск. Час праляцеў вельмі хутка. Толя Шавыраў і Наталля Бука прайшлі ўсе прыступкі школы з 1 па 12 клас. Яны гонар і гісторыя беларускай адукацыі ў Вільні. Выпускнікі добра ведаюць некалькі моў: родную, рускую, літоўскую, англійскую.

А Наталля Бука і Алена Базар праславілі нашу школу не толькі ў Літве, а і далёка за яе межамі. Яны напісалі праектную працу «Малым рэкам – вялікую будучыню», якую прадстаўлялі ў розных краінах свету. У мінулым годзе ў Беларусі і Празе яны занялі другое месца, а сёлета ў Галандыі – першае месца сярод маладых навукоўцаў. Іх запрасілі ў МДУ (Масква), у жніўні паедуць у Стакгольм. Сваю навуковую працу нашы вучні абаранялі на розных мовах: беларускай, літоўскай, англійскай, рускай.

Н. Бука будзе вучыцца ў Мінску ў Сахараўскім універсітэце, атрымае спецыяльнасць эколага, а А. Базар – у Англіі.

У час вучобы дзяўчынкі актыўна займаліся ў школьным хоры «Лянок», які шмат выступаў у Вільні, гарадах Літвы, Беларусі і Рызе. На апошнім званку яны атрымалі ў падарунак касеты з выступленнямі хору, фотаздымкі і букецік з ільну. Такі падарунак зрабіла настаўніца музыкі і кіраўнік хору Валянціна Кавальчук. Упэўнена: школу яны будуць успамінаць як светлыя і радасныя гады, і ў школе іх заўсёды будуць чакаць.

Вось імёны тых, хто склаў гонар 10-га выпуску: Наталля Бука, Алена Базар, Яна Станкевіч, Вольга Фалевіч, Віялета Герасім, Гена Адамовіч, Алег Вяршыла...

Пройдуць гады, магчыма, калі-небудзь у сваіх манаграфіях яны напішуць і пра беларускую віленскую школу імя Ф. Скарыны. У добры шлях!

*Леакадзія МІЛАШ, настаўніца беларускай школы імя Ф. Скарыны, «Голас Радзімы»*

## Майстрам лозапляцення ад 7 да 72

У Клецку прайшло свята-конкурс майстроў лозапляцення Мінскай вобласці «Лазовыя карункі». У ім узялі ўдзел больш за 50 майстроў з 14 раёнаў вобласці і горада Маладзечна, якія працуюць у тэхніцы пляцення з лазы, чароту, хваёвай дранкі і іншых традыцыйных матэрыялаў, сярод іх – 14 дзяцей. Самаму малодшаму ўдзельніку свята Арцёму Баброву з Уздзенскага раёна 7 гадоў, самаму старэйшаму – Юрыю Разанаву з Валожынскага раёна – 72. Большасць майстроў – неаднаразовыя ўдзельнікі розных фестываляў і конкурсаў, адзначаліся дыпломамі і прызамі. Журы конкурсу ўзначаліў старшыня Рэспубліканскага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута. Конкурс праходзіў у суправаджэнні канцэртнай праграмы вядучых самадзейных калектываў Клецкага раёна. А гледачы маглі не толькі азнаёміцца з выставай хатніх калекцый майстроў, але і набыць іх вырабы. А гэта кошыкі, вазы, пано і мэбля з лазы.

Выраблены з любоўю і вялікім майстэрствам, яны упрыгожаць інтэр'ер не толькі сельскай, але і гарадской кватэры, паслужаць у гаспадарцы, як заўсёды служылі беларусу, суправаджаючы побыт селяніна ад калыскі, якую таксама плялі з лазы, да мэблі і посуду, прыладаў рыбалоўлі, плота, якім агароджвалі сядзібу, і для іншых патрэб. Мода на вырабы з лазы зноў вяртаецца ў наша жыццё, і гэтаму нямала садзейнічаюць падобныя конкурсы і выставы.

*Рэгіна ГАМЗОВІЧ*

*На атрымане Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь*

# ... І краязнаўцам падарунак

***Беларускія чытачы, у тым ліку і нашы краязнаўцы, атрымалі выдатны падарунак. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» выпусціла ў свет унікальнае выданне – 2-томную энцыклапедыю «Тэатральная Беларусь».***




Выданне унікальнае перш за ўсё тым, што падобнай інфармацыйнай, навукова-даведачнай працы, якая б так маштабна, ад сівой даўніны паказала гісторыю ўзнікнення, развіцця і сённяшні стан беларускага нацыянальнага тэатра, няма ні ў аднаго з нашых суседзяў.

Тым больш прыемна, што мы, беларусы, у жыцці якіх элементы тэатральнасці прысутнічаюць з далёкіх часоў, пра што сведчаць нашы традыцыі, абрады, сёння можам прасачыць, у якіх накірунках і з якой адметнасцю ішло станаўленне гэтага папулярнага і найстаражытнага віду мастацтва.

Напрыклад, у энцыклапедыі мы знойдзем артыкулы пра фальклорны тэатр, народную драму, такую унікальную і нацыянальна адметную з'яву, як народны лялечны тэатр батлейка, пра першых прафесійных акцёраў – скамарохаў. Дапытлівы чытач атрымае багатую інфармацыю пра школьныя тэатры пры калегіумах, духоўных семінарыях, брацкіх школах самых розных гарадоў Беларусі, прыватнаўласніцкія тэатры XVIII ст. Радзівілаў, Сапегаў, А. Тызенгаўза, М. Агінскага, А. Зорыча, якія таксама былі пэўным этапам развіцця беларускага тэатра.

Выданне адметнае самай грунтоўнейшай інфармацыяй пра беларускі нацыянальны тэатр: ад ідэі яго стварэння В. Дуніна-Марцінкевіча, узнікнення беларускай драматургіі, прафесійных тэатральных калектываў і да аб'ёмнага матэрыялу пра сучасныя драматычныя, музычныя, лялечныя калектывы, гісторыі іх узнікнення і развіцця, цяперашнія творчыя здабыткі.

Асобнае месца займаюць артыкулы пра творчасць акцёраў, рэжысёраў, дырыжораў, драматургаў і іншых тэатральных дзеячаў. Грунтоўнейшыя матэрыялы прысвечаны творчым біяграфіям В. Дуніна-Марцінкевіча, І. Буйніцкага, Ф. Аляхновіча, Ф. Ждановіча, У. Галубка, Е. Міровіча, прадстаўнікоў першага пакалення беларускіх акцёраў: У. Крыловіча, У. Уладамірскага, Б. Платонава, І. Ждановіч, Л. Ржэцкую, Г. Глебава, І. Ільінскага, П. Малчанава і шмат іншых. Творчыя набыткі асобных тэатральных калектываў падагульнены ў вялікіх артыкулах пра асобныя нацыянальныя акадэмічныя і абласныя драматычныя, музычныя і лялечныя тэатры. Неабходна падкрэсліць і тую даведачную ролю, якую іграюць у гэтых артыкулах храналагічныя рэпертуарныя спісы.

Хочацца звярнуць увагу і яшчэ на адну адметнасць энцыклапедыі – у выданні змешчаны матэрыялы, прысвечаныя паказу і навукова-даследчай рабоце ў галіне тэатра, тэатральнаму жыццю гарадоў Беларусі.

Заслугай калектыву аўтараў трэба лічыць і тое, што сабраны матэрыял выразна паказвае месца і ролю беларускага тэатральнага мастацтва ў кантэксце сусветнай тэатральнай культуры. Пра гэта сведчаць артыкулы пра пастаноўкі беларускімі тэатрамі твораў замежных аўтараў, а таксама пра ўдзел беларускіх тэатральных калектываў у розных міжнародных фестывалях і конкурсах, матэрыялы пра гэтыя фестывалі і конкурсы.

Значным дапаўненнем да раскрыцця панарамы тэатральнага жыцця пэўнага перыяду з'яўляюцца і артыкулы пра перыядычныя выданні, як, напрыклад, пра газеты «Минский голос», «Минский листок», «Полесье», або аб'ёмныя артыкулы-нарысы, прысвечаныя часопісам «Полымя», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва».

Праца, укладзеная стваральнікамі гэтага важкага і такога неабходнага выдання не толькі прафесіяналам, але і краязнаўцам, аматарам, заслугоўвае вялікай павагі і ўдзячнасці.

2-томная энцыклапедыя «Тэатральная Беларусь» вылучана сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Думаем, што яна вартая такой высокай дзяржаўнай адзнакі.

***Лілія Краўчук,***
***навуковы супрацоўнік НАН Беларусі, кандытат хімічных навук, краязнавец***

# «Скарына і наш час»

***7–8 кастрычніка 2004 года ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны адбудзецца III Міжнародная навуковая канферэнцыя «Скарына і наш час», прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння заслужанага дзеяча навукі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, аднаго з сузаснавальнікаў ГА «МАБ» прафесара Уладзіміра Анічэнкі.***

Тэматыка канферэнцыі: лінгвістычная скарыніяна, літаратуразнаўчая скарыніяна, Ф. Скарына ў гісторыі Беларусі, міжнародны аспект творчасці Ф. Скарыны, асвета і адукацыя пад сонцам Скарыны, Ф. Скарына і філасофія, Ф. Скарына і ўсходнеславянская навука, агульнакультурнае значэнне творчасці Ф. Скарыны, правазнаўства Беларусі ў святле творчасці Ф. Скарыны, Ф. Скарына і гуманізм славянскіх народаў, скарыназнаўчая і мовазнаўчая спадчына Уладзіміра Анічэнкі, важнейшыя праблемы беларускага мовазнаўства.

Для ўдзелу ў канферэнцыі просім да 5 верасня 2004 года даслаць у аргкамітэт наступныя матэрыялы: заяўку з указаннем асабістых звестак; матэрыялы выступлення (да 5 старонак) у электронным варыянце, набраныя ў тэкставым рэдактары «Microsoft Word for Windows», шрыфт Times New Roman 14 пунктаў, праз 1 інтэрвал на дыскеце 3,5 і адзін аддрукаваны экземпляр; арганізацыйны ўзнос у памеры 5 умоўных адзінак (уносіцца пры рэгістрацыі на самой канферэнцыі).

Рабочыя мовы канферэнцыі: беларуская, руская, украінская, польская.

Адрас аргкамітэта: УА «Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны», Музей-лабараторыя Ф. Скарыны. Тэлефоны для даведак: 0232 (для Беларусі), 10 375 232 (для астатніх краін) + 56-11-12, 56-22-65.

E-mail: usovich@gsu.unibel.by; belshair@ gsu.unibel.by.

***Ад аргкамітэта – Канстанцін УСОВІЧ***

# Дні беларускай культуры ў Новасібірску

Беларускі культурна-асветны цэнтр імя святой Ефрасінні Полацкай у Новасібірску ў рамках Года культуры Рэспублікі Беларусь у Расіі правёў 5–7 чэрвеня традыцыйныя Дні беларускай культуры, прысвечаныя 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дні пачаліся Боскай Літургіяй у Храме святой Ефрасінні Полацкай.

У праграме Дзён прайшло народнае гулянне з вялікім гала-канцэртам заслужанага ансамбля беларускай песні «Церніца» (РБ, Мінск) і музычных калектываў Новасібірска.

Самадзейныя артысты «Церніцы» выступілі таксама ў Машкоўскай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот, перад беларусамі пасёлка Ташара Машкоўскага раёна.

*Галіна ВІР*

# Дар радзіме продкаў

Фармальна назваць Анджэя Станіслава Цеханавецкага нашым суайчыннікам цяжка: нарадзіуся ён у Варшаве амаль 80 гадоў назад (29 верасня 1924 года), пасля вайны абараніў доктарскую ў Германіі, з 1958 года пастаянна жыве ў Лондане, дзе займаецца навукова-экспертнай і музейна-калекцыянерскай справай. Але сэрцам Цеханавецкі ў Беларусі, на радзіме продкаў.

Па жаночай лініі («кудзелі») Анджэй паходзіць з князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх і таму быў удастоены звання ганаровага грамадзяніна Заслаўя. Род Цеханавецкіх, аселы з XIV стагоддзя на Віцебшчыне і Магілёўшчыне, даў нямала асветнікаў, аўтараў кніг. У Бачэйкаве (цяпер Бешанковіцкі раён), дзе жылі бацькі і дзяды А. Цеханавецкага да 1917 года, былі багатыя зборы твораў мастацтва, кніг. Усе гэтыя каштоўнасці ў 1916 годзе вывезлі ў двух вагонах, баючыся наступу немцаў, на часовае захаванне ў Маскву, і там яны зніклі. Калі б знайшліся, абяцае нашчадак, вярнуліся б у Беларусь.

У 1988 годзе па запрашэнні таварыства «Радзіма» і пры садзейнічанні камісіі «Вяртанне» А. Цеханавецкі ўпершыню наведаў Беларусь, пабываў у Бачэйкаве, на Магілёўшчыне. Праз год перадаў, ужо ў Лондане, праз камісію «Вяртанне» для акадэмічнага Музея старабеларускай культуры «чатырохбаковы» (на ўсе выпадкі жыцця) слуцкі пояс і карціну з відам Нясвіжа пачатку XIX стагоддзя. Сёлета, адзначаючы сваё 25-годдзе, музей выдаў шыкоўны альбом, у якім сярод іншых здабыткаў паказаны і дар А. Цеханавецкага.

Слуцкі пояс і карціна – не адзіныя дары мецэната Беларусі. Ён адзін з ініцыятараў і фундатараў аднаўлення Мірскага замка і падзямелля фарнага касцёла ў Нясвіжы, дзе пахаваны Радзівілы (апошні раз А. Цеханавецкі быў тут у 2000 годзе на перазахаванні праху Антонія Радзівіла). Адзін з сузаснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, ён фінансаваў правядзенне трох «круглых сталоў», прысвечаных Вялікаму княству Літоўскаму і беларуска-літоўскім адносінам (Лондан, Мінск, Гервяты Астравецкага раёна), беларуска-італьянскай канферэнцыі ў Венецыі. Перадаў рэдкае гродзенскае выданне XVIII стагоддзя ў дар Полацкаму музею гісторыі беларускага кнігадрукавання. Шмат сродкаў і энергіі ўклаў ва ўпарадкаванне парку ў Бачэйкаве, магіл сваіх продкаў. На беларускую мову перакладзена з нямецкай яго кніга «Міхал Казімір Агінскі і яго «Сядзіба музаў» у Слоніме». Другая кніга «Нясвіж: Міжнародны цэнтр культуры ў Беларусі» (Варшава, 1994) чакае перакладу. Усё гэта, разам узятае, дало падставы прысудзіць вучонаму званне ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Як сведчаць апошнія лісты ў камісію «Вяртанне», А. Цеханавецкі сустракае сваё 80-годдзе з думкамі пра Беларусь, пра свой новы прыезд на зямлю продкаў.

Мецэнацкая дзейнасць Анджэя Цеханавецкага з князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх з'яўляецца добрым прыкладам для іншых магнатаў, чые карані вядуць да беларускай зямлі.

*Яраш МАЛІШЭЎСКІ, сябар камісіі «Вяртанне»*




Буслоў край, родны куточак вабіць сэрца, грэе душу.

З гэтай цудоўнай жанчынай-беларускай, якая цяпер жыве ў Амерыцы, я спаткаўся выпадкова. Відаць, Лёс і Гасподня сіла спрыяюць такім сустрэчам. Як і тады, калі я прапанаваў госці з'ездзіць у старажытны Тураў, дзе павінны былі адбыцца Дні беларускага пісьменства. Менаівта там знаходзіцца адзіны ў свеце фенамен – крыж, які расце з зямлі і які валодае цудатворнай сілай, мая субяседніца Вацлава Янаўна Вярбоўская адразу захацела дакрануцца да анёльскіх крылаў крыжа, зірнуць з вышыні Замкавай гары і прыхіліцца да святыні, гукнуць: «Я прыляцела, мой любы край!»

Вось яна, Вацлава, ціхенька моліцца ля крыжа ў Тураве. І, мабыць, анёлы лятаюць вакол жанчыны, бо вочкі яе сталі больш уніклівымі, родная зямля Бацькаўшчыны абдымае яе, крыж – цёплы, крыж – жывы, ён вітае зямлячку.

Шмат добрых спраў нашы беларусы робяць у Амерыцы для сваёй радзімы – чарнобыльская трагедыя адгукнулася ў іх сэрцах, яны стварылі дабрачынны фонд «Этнічныя галасы Амерыкі», старшынёй якога з'яўляецца цудоўная, сардэчная жанчына Ірэна Каляда, якая рупіцца пра нашых дзяцей з забруджаных раёнаў. Вось і цяпер фонд вырашыў дапамагчы дзіцячаму тэатру фальклора «Бераг белых буслоў» горада Буда-Кашалёва Гомельскай вобласці.

Са старажытнага Турава Вацлаву Янаўну запрасілі ў аддзел культуры Жыткавіцкага райвыканкама (яна ж музыказнаўца), дзе адбылася цёплая сяброўская сустрэча з загадчыкам Адамам Прохаравічам Купрацэвічам. Потым беларуску з Амерыкі песнямі, танцамі, караваем шчыра вітаў фальклорны гурт «Азярына» з вёскі Азяраны. Ох і натанцавалася там Вацлава Янаўна, часталася смачнай юшкай на беразе Прыпяці, гойдалася ў драўлянай лодцы на яе хвалях, спявала:

*Колькі ў небе зор – цяжка палічыць,*
*Толькі з іх адна найярчэй гарыць.*
*Гэта ты мая, зорка ясная,*
*Ты, любоў мая непагасная...*

Відаць, доўга будзе памятаць наша зямлячка працавітых, таленавітых палешукоў са старажытнага краю Тураўскага. Добрага шляху Вам, Вацлава Янаўна, моцы і Боскай ласкі. Прывітанне сябрам дабрачыннага фонду! Хай мірна кружаць буслы над Беларуссю і Амерыкай!

***Мікола КОТАЎ,***
***фальклярыст***
***Фота аўтара***

## Міжнацыянальныя справы

Нядаўна адбылася сустрэча са старшынёй Саюза грамадскіх аб'яднанняў «Беларускі кангрэс нацыянальна-культурных арганізацый» А. Кімам, старшынёй грамадскага аб'яднання «Міжнародны фонд татара-башкірскай духоўнай спадчыны» І. Багданавым, муфціем рэлігійнага аб'яднання «Духоўная ўправа мусульман у Рэспубліцы Беларусь» І. Вăрановічам, старшынёй Мінскага гарадскога культурна-асветнага таварыства «Айастан» Г. Егіазаранам, старшынёй грамадскага аб'яднання «Беларуская цыганская дыяспара» і прэзідэнтам Асацыяцыі ромскіх арганізацый краін СНД і Балтыі А. Казлоўскім, старшынёй Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Кангрэс азербайджанскіх абшчын» Н. Багіравым, старшынёй Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын Л. Левіным. Дэлегацыя наведала Мінскі яўрэйскі абшчынны дом. Прыватныя размовы і наглядныя прыклады ўпэўнілі гасцей, што працяг дыялога можа мець добры плён для нацыянальных супольнасцей Беларусі і Расіі.

*Галіна ВІР*

# Ці вернуць чысціню вады Бузянцы?

***Беларусь заўсёды славілася сваімі воднымі багаццямі. Тысячы рэк і азёр, штучныя каналы на працягу стагоддзяў кармілі, давалі працу беларусам, з'яўляліся адной з асноў эканамічнага развіцця нашых зямель. Але з цягам часу яны пачалі страчваць сваё ранейшае значэнне, паступова ператвараючыся ў зоны адпачынку...***



**Аўгустоўскі канал.** *Даўжыня каля 102 км., з іх на тэрыторыі Беларусі 22 км. Мае 18 шлюзаў, у тым ліку на Беларусі 4 шлюзы і 2 плаціны. Ініцыятыва правядзення канала належыла князю Ф.К. Друцкаму-Любецкаму, міністру скарбу Царства Польскага. Ставілася за мэту атрымаць гандлёвы шлях да Балтыйскага мора ў абыход прускіх уладанняў з іх высокім мытным зборам. Паводле загаду цэсарэвіча Канстанціна будаўніцтва пачалося 27.07.1824 года сіламі інжынернага корпуса генерала Малецкага. Аўтар праекта канала і кіраўнік будоўлі – генерал І. Прандзінскі. У час паўстання 1830–1831 гадоў работы прыпынены, адноўлены ў 1833 годзе. Навігацыя пачалася ў 1839 годзе.*

**Бярэзінская водная сістэма.** *Даўжыня 169 км. У 1631 годзе кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза правёў праз сойм канстытуцыю (пастанову) аб капанні ў гонар яго сына Уладзіслава «новага порта» (канала), які злучыў бы вярхоўі Бярэзіны і Віліі (прыток Нёмана). Але, стаўшы ў наступным годзе каралём, Уладзіслаў сканцэнтраваў увагу і сродкі на знешняй палітыцы. Ідэя будаўніцтва канала была забыта. Другі варыянт гэтай ідэі, які прадугледжваў злучэнне Бярэзіны з Заходняй Дзвіной, быў прапанаваны ў перыяд 1765–1772 гадоў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай матэрыялы разам з іншымі картаграфічнымі распрацоўкамі трапілі ў Пецярбург, дзе былі выкарыстаны ўпраўляючым воднымі шляхамі Расіі Я. Я. Сіверсам. Па яго даручэнні генерал-маёр Герман распрацаваў праект будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы (зацверджаны 23.02.1797 г.). Работы распачаліся ў 1798 годзе. У 1805 годзе па новым водным шляху прайшлі плыты.*

Усплёск вёсел разбудзіў ахутаную коўдрай туману рэчку Бузянку, якая яшчэ спала сярод бярэзінскіх лясоў. Дзесьці побач, напалохаўшыся з'яўленнем незнаёмага госця, ўстрывожана крыкнула сойка. Запаведныя мясціны, якія дагэтуль адпачывалі пасля дзённай ліпеньскай спёкі, пакрыху ажывалі. Пачаў нясмелую гамонку з дрэвамі вецер. Першыя праменьчыкі сонца, накупаўшыся ў ранішняй расе, ажывілі соннае птушынае царства, якое за лічаныя хвіліны напоўніла прыбярэжныя лясы і лугі сваім спевам. Ад гэтых звонкіх галасоў на душы адразу стала спакойна. Дзесьці далёка-далёка засталіся жыццёвыя праблемы, нявырашаныя пытанні. Толькі ты і прырода, ты і вечнае, тое, што было да цябе і застанецца пасля...

Праз колькі кіламетраў давялося прадоўжыць падарожжа берагам. Гарлачыкі, якія вялізнай сям'ёй сталі на маім шляху, прымусілі пакінуць човен. Нават і не верыцца, што па Бузянцы, скрозь зарослай водарасцямі, калісьці да Балтыйскага і Чорнага мораў сплаўлялі плытамі лес, прадметамі вывазу былі дзёгаць, смала, пушніна, хлеб, лён, масла і інш. Завозілі на Беларусь розныя металы, металічныя вырабы, неабходныя прадукты харчавання, прадметы вытворчасці.

Ці думалі людзі, якія ў цяжкіх умовах, сярод лясоў і балот, пры дапамозе толькі сякер, рыдлёвак і тачак, будавалі ў гэтых мясцінах Сергуцкі канал, што ўжо на пачатку XX стагоддзя іх праца нікому не будзе патрэбна? З развіццём у Расійскай імперыі чыгункі водныя шляхі страцілі сваё ранейшае эканамічнае значэнне. Бярэзінская водная сістэма абмялела, надводныя збудаванні (а гэта шлюзы, масты) разбурыліся. Прыгожыя ў мінулым каналы – узор гідратэхнічнага будаўніцтва XIX стагоддзя – у асноўным ператварыліся ў звычайныя сажалкі.

У самую спёку дабраўся, нарэшце, да вёскі Кветча, якая стаіць на беразе Бузянкі. Пасля невялікага адпачынку ў цяні старасвецкага дрэва, пайшоў шукаць патрэбных людзей, каб знайсці сярод мясцовага насельніцтва адказ на пытанне: «Ці варта вяртаць каналам Бярэзінскай воднай сістэмы першапачатковы выгляд?» Доўга давялося паблукаць па пустых вуліцах, пакуль адчынілі дзверы. Гаспадыня, даведаўшыся пра тое, адкуль я і навошта завітаў у вёску, ахвотна пачала дзяліцца сваімі думкамі:

– Крыўдна глядзець на тое, у што ператварылася наша рэчка. Раней жа яна чыстай была. Людзі ў ёй купаліся... Калісьці тут драўляны мост быў. А потым яго раскідалі і на тым месцы паклалі трубу, насыпалі зверху пясок. Ад гэтага знікла цячэнне, вада зарасла травой, стала бруднай... Каб гэта хто ўзяў бы, ды і пачысціў Бузянку, а то ж балюча глядзець, асабліва, калі ўспамінаеш, якой прыгожай яна была. А яшчэ на канале шлюз стаяў, хадзілі параходы. Я сама памятаю.

Можа, і сапраўды, варта было б пачысціць не толькі рэчку Бузянку, але і ўсю Бярэзінскую водную сістэму, стварыць турысцкую інфраструктуру. Тым больш, што прыгожыя мясціны Лепельшчыны, на мой погляд, гэтаму толькі спрыялі б. Але ці так усё проста, як падаецца на першы погляд?

Значная частка Бярэзінскай воднай сістэмы знаходзіцца на тэрыторыі біясфернага запаведніка. Як мне патлумачылі яго навуковыя спецыялісты, праводзіць рэканструкцыйныя работы на тэрыторыі запаведных мясцін – значыць парушыць экасістэму, што складвалася тут на працягу многіх дзесяцігоддзяў.

Добра, але ж ёсць і іншая частка штучнай воднай сістэмы, якая знаходзіцца за межамі Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Што можна з ёй зрабіць? Аб неабходнасці частковай рэканструкцыі каналаў ішлі размовы толькі сярод мясцовых краязнаўцаў, зацікаўленых гэтай праблемай людзей. Сур'ёзных жа захадаў пакуль не прымалася.

Цікава, як доўга яшчэ засталося жыць Сергуцкаму каналу і яго братам? Няўжо яны будуць для наступных пакаленняў яскравым прыкладам нашай абыякавасці?..

На адваротным шляху падарожжа ўсплёск вёсел патрывожыў двух шэрых жураваў.

– Курлы-курлы! – сумнае рэха пранеслася над прыбярэжным лугам і лесам, паляцела над усёй Беларуссю, нібы папярэджваючы аб непатрэбнасці менавіта бяздумнага ўмяшальніцтва ў справы прыроды.

**Аўгустоўскі канал.** *У 2004 годзе распачаліся рэканструкцыйныя работы.*

**Бярэзінская водная сістэма – ?..**

**Ігар ГРЭЧКА**
**Фота аўтара**

# *Праваднікі турыстаў – краязнаўцы*

Пра тое трэба рупіцца, як кажуць, усім народам. Турыст імкнецца туды, дзе яму цікава адпачыць на карысць свайму духу і здароўю, тое адчуць, пабачыць, пра тое пачуць, каб нарэшце пераканацца, што ёсць чаму не толькі ў самім сабе, а і вакол сябе здзіўляцца. І нашым беларускім краязнаўцам вельмі дарэчы гэтым у поўнай меры і своечасова пакарыстацца. Адправіць, скажам, з таго ж Палесся, з нейкай спаконвечнай вёсачкі ліст-прапанову ў тую ці іншую турыстычную фірму, што, маляў, так і так, такі і такі рады прыняць групу турыстаў, каб абхадзіць з ёй таямнічыя ўгоддзі, напрыклад, самых буйных у Еўропе нізінных балот Званец і Дзікае. Не сумнявайцеся, што такая прапанова будзе заўважана і зваротная сувязь з краязнаўцам наладжана. А ўсё таму, што тут, акрамя ўсяго, уступае ў свае правы бізнес, які і вымушае ў справе таго ж экалагічнага турызму паразумецца самыя розныя бакі, усіх нас.

А цяпер пра першапраходцаў у гэтай справе. І найперш хочацца заўважыць, што вось і саветнік пасольства Францыі Сільві Лемасон была зачаравана падарожжам па Брэстчыне. І гэта дзякуючы яе намаганням у ліпені французскі прафесар Анры О'Раньён прывязе ў Мінск канкрэтныя прапановы па супрацоўніцтве ў развіцці экалагічнага і навуковага турызму ў Брэсцка-Пінскім рэгіёне. Такім чынам, Францыя стане чацвёртым замежным партнёрам, які пажадаў удзельнічаць у рэалізацыі праграмы «Палессе», якая нарадзілася ў сценах Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна і Белдзяржуніверсітэта пры падтрымцы вучоных з Украіны, Польшчы і Германіі.

Зараз на базе Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна ствараецца навукова-даследчы інстытут. Адзін з аддзелаў НДІ – сектар прыроднай экалогіі Палесся – будзе шэфстваваць над рэалізацыяй праграмы «Палессе».

Навуковая база і кемпінгі для турыстаў размесцяцца ў Іванаўскім раёне, на беразе Завішчанскага возера. Месцы тут вельмі прыгожыя. Побач з гэтым возерам ёсць яшчэ пяць азёр.

У турыстычную зону ўвойдуць і суседнія раёны – Пінскі, Столінскі, Лунінецкі, Івацэвіцкі, Драгічынскі, па якіх будуць пракладзены пешыя, конныя, веласіпедныя і аўтамабільныя турыстычныя маршруты. Дзеля практычнага вывучэння прыродных комплексаў і ландшафтаў да беларускіх балотаў абавязкова накіруюцца біёлагі, географы, арнітолагі з усёй Еўропы.

Па ўсім бачна, праект будзе мець і камерцыйны поспех. На многія выдаткі пойдуць тыя ж экалагічныя турысты, каб пабачыць на ўласныя вочы, бліжэй пазнаёміцца з 54-кіламетровым каналам (пабудаваны ў XVIII стагоддзі на грошы дзядзькі аўтара знакамітага паланеза Агінскага), які злучыў Выгонашчанскае і Вулькаўскае азёры. 10-ы па ліку шлюз – самае старое гідратэхнічнае збудаванне Беларусі – знаходзіцца ў рабочым стане, але сам канал не выкарыстоўваецца ўжо 65 гадоў. Самым жа вялікім у нашай краіне з'яўляецца Дняпроўска-Бугскі (Каралеўскі) канал, навігацыю на якім адкрыў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Панятоўскі. Ёсць яшчэ на Брэстчыне і канал каралевы Боны Сфорцы, пабудаваны ў XVI стагоддзі.

Праўна ж, знойдуцца і такія экалагічныя турысты, якія пажадаюць нават разам з праваднікамі з ліку мясцовых краязнаўцаў пазнаёміцца з буйнейшым некранутым лесабалотна-азёрным масівам на галоўным водападзеле Еўропы – у раёне Выганашчанскага возера ці самай буйной на тэрыторыі СНД папуляцыяй чорнай бярозы паблізу вёскі Турная Івацэвіцкага раёна, цар-дубам у Пажэжынскім лясніцтве Маларыцкага раёна – самым старым (не менш 820 гадоў) дрэвам беларускага лесу.

Зрэшты, Маларыцкі ж раён славіцца сваімі трыма самымі старымі ў краіне букамі, а вось Івацэвіцкі раён – буйнейшымі насаджэннямі карэльскай бярозы, а ў Брэсце абжылася буйнейшая ва Усходняй Еўропе зімоўка кажаноў.

Ды з Брэста зноў кіруемся ў глыб Палесся. Вось ельнікі, якія не маюць сабе роўных у Еўропе па разнастайнасці форм. А вось лепшы ў Беларусі цеплалюбівы цярноўнік. Урэшце рэшт толькі беларускія праваднікі-краязнаўцы могуць паказаць на ўлонні прыроды дапытлівым турыстам унікальны архідны пояс Брэсцкага Палесся, дзе расце каля 20 тысяч экземпляраў рэдкай кветкі – венерына чаравічка.

***Іван ГРЭБЕНЬ***



**Ад рэдакцыі.** ***Шчыра дзякуем за дапамогу пры падрыхтоўцы матэрыялу дырэктару Лепельскага краязнаўчага музея Але Стэльмах.***

# Традыцыі стараавераў Бялыніччыны

**_Напрыканцы 80-х гадоў XIX стагоддзя на тэрыторыі Эсьмонскай воласці ўзніклі хутары старaабрадцаў. Прыкладна ў гэты ж самы час узнікла і вёска, насельніцтва якой складалася таксама з сялян-стараавераў – Старая Клёўка._**

**_Перабраліся на Эсьмоншчыну старaабрадцы ў асноўным з былой Віленскай губерні, бо тутэйшы пан, які валодаў угоддзямі ў ваколіцах сучаснай Старой Клёўкі, распрадаваў сваю зямлю. Прыезджыя і набылі яе._**

Старажылы згадваюць, што непадалёк ад Старой Клёўкі знаходзілся і хутарскія сядзібы стараабрадцаў. Некалькі хутароў узнікла на шляху з вёскі Кулакоўка ў веску Міхасёўка. Гаспадарылі на іх сем'і Сімкі Аўдзеева, Сяргея Гвоздзева, Афяценія Прышчэпава і некаторыя іншыя стараверы.

Перад пачаткам Другой сусветнай вайны хутары гэтыя, як і ўсе астатнія, ссялілі дзеля таго, каб людзі ўступілі ў калгасы. Сем'і з хутароў, што знаходзіліся на шляху з Кулакоўкі ў Міхасёўку, пераехалі на сталае жыхарства ў Старую Клёўку і ўступілі ў тамашні калгас «Другая сесія».

Да вайны ў гэтай вёсцы, якая, па-сутнасці, з'яўлялася буйным культурна-асветніцкім і духоўным асяродкам бялыніцкіх стараабрадцаў, дзейнічала школа з рускай мовай навучання, існавала стараверская царква (малітоўны дом). У 50-я гады мінулага стагоддзя царква была разбурана – з яе пабудавалі ў Стараселлі вясковы клуб. Святаром у царкве да самай ліквідацыі яе служыў Сяргей Гвоздзеў, а ўтрымлівалася бажніца на ахвяраванні саміх прыхаджанаў.

Сяляне-стараверы строга і няўхільна прытрымліваліся сваіх абрадаў, законаў, традыцый. Ужо з трохгадовага ўзросту дзіця пад прыглядам бацькоў павінна было захоўваць пасты.

Старыя ніколі не галіліся. Безбародага памерлага адзінаверцу яны маглі нават не пахаваць па свайму абраду.

Строгімі былі парадкі і пры заключэнні шлюбу. Сям'я магла быць створана толькі паміж адзінаверцамі.

Па суботах пасля абеду са стараавераў ужо ніхто не працаваў, а бліжэй да вечара ўсе яны спяшаліся ў малітоўны дом на вячэрнюю службу. У нядзелю богаслужэнні ў царкве пачыналіся а 4-й гадзіне раніцы. Затым служылі абедню, маліліся і ўвечары.

Пры пахаванні нябожчыка абавязкова апраналі ў доўгую сарачыцу і падвязвалі паяском. Паверх адзення апраналі саван, адным куткам палатна закрывалі твар памерламу і, доўга молячыся, распачыналі абрад провадаў. Пасля гэтага нельга было нябожчыку адкрываць твар, бо ў такім выпадку трэба было выконваць абрад провадаў з самага пачатку. Стараверы хаваюць нябожчыка, як праваслаўныя і каталікі, на трэці дзень. Дакладна і строга рэгламентаваны ў мясцовых стараавераў і абрад хрышчэння.

Калі дзіця ў сям'і нараджалася нядужым, хворым, то сам бацька павінен быў адразу ж па нараджэнні пахрысціць немаўля – каб не памерла нехрышчоным.

Хрышчэнне, паводле сведчання жыхаркі Старой Клёўкі Надзеі Рыгораўны Баравіковай, 1932 года нараджэння, праводзілася наступным чынам: неабходна было перахрысціцца самому і тройчы са словамі «Во имя отца, и сына, и святого духа» акунуць дзіця ў ваду, а на слова «Амінь» выцягнуць яго з вады. Калі нядужае дзіця выжывала, пазней яго трэба было перахрысціць у царкве. Імя давалі выключна па імянным календары.

У царкве напачатку выканання абраду хрышчэння дзіцяці поп ставіў кумоў і дзіця да ўсходу тварам, рукі яны трымалі далонямі ўверх. Дзіця трымала на руках бабка. Поп чытаў малітву да Святой Багародзіцы, трапары.

Затым дзіця паварочвалі тварам на захад. Тое ж самае павінны былі зрабіць і кумы. На гэты раз свае далоні яны паварочвалі ўніз.

Поп задаваў пытанні, кумы адказвалі за дзіця. У выпадку, калі хрысціўся дарослы, на пытанні святара ён адказваў сам.

Пытанні і адказы прамаўляліся кожныя па тры разы. Пытанне: «Адмаўляешся ад сатаны?» Адказ: «Адмаўляюся ад сатаны».

Пасля абраду адрачэння ад сатаны кумы плявалі тройчы пад левую нагу. Калі хрысціўся дарослы, гэта ён рабіў сам.

Затым святар станавіўся тварам на захад і, трымаючы дзіця тварам на ўсход, апускаў яго ў купель са словамі «Во имя отца, и сына, и святого духа». На слова «Амінь» даставаў з вады. Гэта працэдура абраду хрышчэння паўтаралася тройчы. Затым па тры разы чыталіся малітвы і псалмы, пасля гэтага крыжык з гайтанам (адмысловай вяровачкай) ускладваўся на дзіця. Хрышчонага апраналі ў сарачыцу і падвязвалі паяском.

На працягу трох дзён нельга было здымаць адзенне і купаць дзіця. На завяршэнне абраду хрышчэння поп прыкладаў дзіця да крыжа (дарослы цалаваў яго сам) і чытаў кумам павучэнне: правілы царкоўныя не парушаць, заўсёды быць у малітве, даць таму, хто церпіць нястачу, любіць людзей і не мець гонару ды славалюбства.

***Святлана БУЙНІЦКАЯ,***
***краязнавец***

# Гісторыя ні ў чым не вінаватая,

## адказнасць нясуць яе перапісчыкі

***Мяне, аўтара рамана «Кліч роднага звона» – твора-версіі пра пачатак утварэння ў XIII стагоддзі на нашых землях Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), – не магла не зацікавіць адна з інтрыгуючых публікацый у польскім часопісе «Polityka» ў № 39 за 2002 год. Публікацыя да таго цікавая для нас, што, каб яе не было, то вазьмі ды выдумай яе, яна – надзвычай яркі аргумент у многіх былых і сённяшніх спрэчках наконт ВКЛ. Але нічога выдумляць не трэба, тым больш, што апанентны бок прызнаў тое, што некаторыя нашы даследчыкі сцвярджалі яшчэ да XIX стагоддзя...***

*У паводзінах, учынках вялікіх людзей – ды яшчэ ва ўзаемадачыненні з іншымі дзяржавамі, раскладцы палітыкі калі не на кантыненце, то ў рэгіёне – было, ёсць і будзе шмат многапавярховага, за што ўладароў ухваляць ці зганяць, а то і праклянуць.*

Але, як кажуць, па чарзе і спакойна. Аўтар апублікаванага матэрыялу – прафесар Інстытута гісторыі ПАН П. Ласоўскі. Ён напісаў шмат гістарычных прац, у тым ліку і пра польска-літоўскія варункі на працягу многіх стагоддзяў. Адпаведна, дасведчаны ў гэтай справе і пра беларускія нюансы, але ў новай публікацыі калі і ўзгадвае іх, то толькі ўскосным чынам...

Публікацыя сапраўды інтрыгуючая ўжо з загалоўка: «Ягайла не ёсць ужо здрайца» (тут і далей пераклад з польскай мовы аўтара. – **Г. Д.**). Нельга не зацікавіцца: а каму Ягайла здраджваў ці, наадварот, убярогся ад такой заганы?

Аказваецца (чаго я дагэтуль не ведаў), у 1930 годзе ў Літве, у той, як пісалі ў савецкі час, у буржуазнай, адбыўся сімвалічны суд, дзе Ягайлу абвінавацілі за Крэўскую унію, за правядзенне прапольскай, антылітоўскай палітыкі, з-за чаго, маўляў, Літва пацярпела ад Польшчы – тады ў памяці яшчэ быў свежы польска-літоўскі канфлікт 1918–1920 гадоў, саднеў боль па страчанай, занятай палякамі Вільні. Вось Ягайлу дасталося і за апошняе, як за цяжкае наступства ягонай дзейнасці ў XIV–XV стагоддзях...

Нам, беларусам, аніяк не старонняе тое, што і як рабілася ў ВКЛ да Ягайлы і пасля яго: і нашы ж продкі непасрэдна ўтваралі тую дзяржаву, што пазней стала адной з буйнейшых у Еўропе і якая дала Еўропе адну з першых канстытуцый – Статут. Ды ў нас і сёння (з-за застарэлых фальсіфікацый і іншых прычын) у падручніках па гісторыі не сцверджана пэўная думка пра ВКЛ, пра вышэйпамянёны акт Ягайлы, у выніку чаго люд ВКЛ і Польшчы знайшоў паратунак найперш ад крыжакоў, ад Залатой Арды, пачаў будаваць тагачасную саюзную дзяржаву, на чале якой з 1386 года станавіўся наш зямляк і быў уладаром да 1434-га (48 гадоў да сваёй смерці ў глыбокай старасці!). Зразумела, не ўсе князі, феадалы адобрылі Крэўскую унію, пазнейшыя акты, Ягайлу і пры яго жыцці. Асабліва ярым праціўнікам быў яго стрыечны брат Вітаўт, які не толькі дабіваўся і дабіўся сваёй улады над ВКЛ, але і самастойнасці краіны са сваімі казной, войскам, са сваім судовым і ўпраўленчым апаратам, са сваёй палітыкай урэшце...

Вышэйзгаданы суд 1930 года і прызнаў яго, Вітаўта, героем літоўскага народа, які, як адзначалі, неймавернымі намаганнямі, стратамі і ўласнымі ахвярамі супрацьстаяў паланізацыі і быў блізкі, каб у 1430 годзе стаць каралём ВКЛ і цалкам анезалежніць яго. Але асвечаную ў Рыме карону перахапілі па дарозе і пагвалціліся над ёю. А тут яшчэ на ВКЛ пажадліва пачне пастаянна пазіраць і малады, рашучы ўсходні сусед, які хутка намерыцца быць «собирателем» славянскіх зямель па праве пераемніка Кіева...

Наконт Ягайлы, трэба прызнацца дасведчанаму і дылетанту, сапраўды, было, ёсць і будзе нямала загадак і спрэчак. Ужо з-за таго таксама, што ён неардынарнае ўчыніў. У паводзінах, учынках вялікіх людзей – ды яшчэ ва ўзаемадачыненні з іншымі дзяржавамі, раскладцы палітыкі калі не на кантыненце, то ў рэгіёне – было, ёсць і будзе шмат многапавярховага, за што ўладароў ухваляць ці зганяць, а то і праклянуць. Уладары не заўсёды вызначалі сваю палітыку, як яшчэ далёка да Ягайлы і Вітаўта, многіх польскіх каралёў і маскоўскіх вялікіх князёў, цароў, на народным вечы (Полацк, Вялікі Ноўгарад), у ягайлаўскі час палітыка ўжо вырашалася ў вузкім коле, пошаптам і змовай. І раней такое было.

У прынцыпе, у зводзе «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», які пачаў складвацца яшчэ пры жыцці Ягайлы і Вітаўта, у «Хроніцы Быхаўца», дзе гісторыя ВКЛ з легендарных часоў да пачатку XVI стагоддзя, патлумачана, чаму і як Ягайла стаў польскім каралём. Ягоны магутны бацька ў цесным саюзе з магутным братам Кейстутам, як два раўнапраўныя

**Historia**

**Jagiełło nie jest już zdrajcą**

W 1930 r. odbył się na Litwie symboliczny sąd nad królem Jagiełłą. Oskarżono go o przyłączenie Litwy do Polski i utratę Wilna. Społeczny oskarżyciel zażądał dla Jagiełły najwyższej kary i skreślenia go z historii Litwy. Jagielle przeciwstawiono postać Witolda jako bohaterskiego, pozytywnego władcy.

Piotr Łossowski





*У выніку звыклых у такіх выпадках спрэчак прыйшлі да згоды – шукаць паратунку, падмогі ў Ягайлы – дарма, што ў свае сталыя ўжо гады быў халасцяк.*

вялікія князі ВКЛ, годна працягвалі справу папярэднікаў, надзвычай мудра падзялілі ўладу і свае абавязкі па захаванні, умацаванні ВКЛ; Альгерд адным з першых з усходнеславянскіх абшараў у 1362 годзе разграміў вялікія сілы Залатой Арды, намагаўся аслабіць Маскоўскае княства, што ўмацавалася, хадзіў на яго паходамі (што ж, было такое, можна гісторыю перапісаць, іначыць ва ўгоду камусьці ці чамусьці, але і з гісторыі слова не выкінеш, рана-позна вернецца яно), сілай і дамовамі павялічыў ВКЛ удвая і пакінуў у спадчыну не разбітае карыта, а, як казалася ўжо, адну з самых буйных краін у Еўропе (зразумела, усе грахі яму дароўваюцца, як і ягонаму брату Кейстуту); Альгердаў сын, Ягайла, быў па законе не самы першы на пасад вялікага князя ВКЛ, але стаўшы ім, павёў новы вектар палітыкі – задыпламатнічаў з няданімі ворагамі – татарамі, крыжакамі (з апошнімі заключыў сепаратныя дагаворы, ахвяраваў ім Жмудзь (частку сённяшняй Літвы, чым, такім ахвяраваннем, карысталіся і да яго) – і скіраваў позірк на Польшчу. Вялікіх войнаў, нават бітваў не адбылося, але яе нападам даў рашучы адпор, а пасля сам рушыў туды, лёгка перайшоў Віслу і меў сілы пайсці далей. Як кажуць, сядзеў на кані і з-пад рукі пазіраў углыб. Ва ўмовах, калі навісла пагроза ад моцных саюзнікаў (канечне, часовых) – крыжакоў і моцнага пасля бацькі, пасля ганебнай расправы з дзядзькам Кейстутам Ягайлы – нашы заходнія суседзі ва ўмовах бескаралеўя замітусіліся, а то, можа, і разгубіліся. У выніку звыклых у такіх выпадках спрэчак прыйшлі да згоды – шукаць паратунку, падмогі у Ягайлы – дарма, што ў свае сталыя ўжо гады быў халасцяк. Дасюляшняму пасягальніку на польскую карону, сыну аўстрыйскага князя, выплацілі водкуп: дзякуй, што прыбыў да нас, але выбачай, цяпер патрэбны не ты, еўрапейскі арыстакрат, а ўсходні варвар! А, можа, яму і не сказалі, што такім ходам трэба найперш разарваць небяспечны саюз Ягайлы і крыжакоў.

Польская каралеўна Ядзвіга (дарэчы, не дачка караля польскага, як і цяпер пішуць у беларускіх энцыклапедыях, а вугорскага – венгерскага), як запісана ў лепапісах, са слязьмі ў адны вароты праводзіла шыкоўнага малойца, а ў другія, гарадскія, паехала сустракаць ці не ўдвая старэйшага нашага пушчанца! Таксама палітыка, гісторыя! Можна падаваць (і падавалі, і падаюць усе па-рознаму), але Ягайла мірна ўехаў, сеў на польскі трон!

Несумненна, быў тэкст пагаднення паміж Ягайлам і польскімі феадаламі, святарамі. Каб гэтае пагадненне было цяпер ва ўжытку, то шматлікія загадкі, пытанні адпалі б самі па сабе, мы глыбей і праўдзівей ведалі б: хто і якія мэты меў на ўвазе. Але пазней, набыўшы перавагу, мяркую (і не я адзін, грэшны, паўтараю найперш М. Ермаловіча), польскаму боку было не зусім выгадна захоўваць, усім паказваць той складзены ў дыскусіях тэкст. Пазнейшыя «ўстаўкі», тлумачэнні іх, выбачайце, і мне, літаратару, які так ці гэтак далучыўся да гісторыі, рознамоўных тэкстаў, выклікаюць выказаць сумненне. Часам нават з-за здаровай, цвярозай чалавеча-пісьменніцкай развагі: магутны Ягайла падаўся ў Польшчу... з-за найміцтва, службы? Вы – што?

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

**(Заканчэнне будзе)**

# Канфесійныя праблемы памежжа

Летась у Торуні на польскай мове выйшла з друку манаграфія Мацея Мруза «Каталіцызм на памежжы: каталіцкі касцёл у дачыненні да ўкраінскага і беларускага пытанняў у Польшчы ў 1918–1925 гадах».

Аўтар кнігі завяршае свае развагі фразай: «Праблемы ўсходняга нацыянальна-рэлігійнага памежжа з'ўляліся для II Рэчы Паспалітай несумненна адным з самых складаных унутраных вузлоў супярэчнасцей, а яе міжнародныя непаразуменні дадаткова ўскладнялі выпрацоўку стабільнай і кампраміснай мадэлі суіснавання розных хрысціянскіх цэркваў на тэрыторыях, дзе пражывалі народы, лёсы якіх перапляла супольная, часам драматычная гісторыя» (с. 290).

Гэты вывад здаецца мне празмерна асцярожным, калі супаставіць яго з усімі матэрыяламі, клапатліва сабранымі і прадстаўленымі ў 6 раздзелах. Грунтуючыся на іх, чытач можа прыйсці да заключэння, што ва ўмовах спрэчных нацыянальных уздзеянняў – польскіх, украінскіх, беларускіх і літоўскіх – місіянерскіх імкненняў каталіцызму, накіраваных супраць праваслаўя (гэта дазваляе зразумець сённяшнія трывогі і крыўды ў дачыненні да Ватыкана Маскоўскага патрыярхату), істотных разыходжанняў (часткова яны паўтаралі адрозненні ў нацыянальнай свядомасці) паміж выдатнымі прадстаўнікамі пасобных каталіцкіх канфесій, а таксама несупадзенняў ватыканскай і польскай палітыкі ў дачыненні да Расіі, дасягненне кампрамісу было, хутчэй, нерэальным. Тым больш, падкрэслівае ў многіх месцах аўтар, што прадстаўнікі духавенства (асабліва каталіцкага) спаборнічалі паміж сабой у лаяльнасці да інтарэсаў свайго народа (часам яны разумеліся як дэнацыяналізацыя «іншых»), а таксама ў адносінах да наднацыянальнай місіі хрысціянства, евангелічнай мэтай якога павінна быць выбаўленне ўсяго чалавецтва, а не задавальненне зямных палітычных амбіцый прадстаўнікоў адной нацыі.

Істотнай каштоўнасцю кнігі з'яўляецца паказ нацыянальных канфліктаў у Польшчы на фоне сітуацыі каталіцкай царквы і яе імкнення стаць пасля Першай сусветнай вайны польскай дзяржаўнай рэлігіяй (такім пытанням прысвечаны першы раздзел манаграфіі), а таксама накіраваных далёка на ўсход місіянерскіх намераў Апостальскай сталіцы (другі раздзел). М. Мруз слушна звяртае ўвагу на тое, што такія праекты перапляталіся з імкненнямі польскай дыпламатыі, а таксама не садзейнічалі змяншэнню напружання паміж Рэччу Паспалітай і меншасцямі ва ўсходніх ваяводствах. У трох наступных раздзелах па чарзе разглядаюцца ўзаемаадносіны паміж рымска-каталіцкай і грэка-каталіцкай цэрквамі, праблемы нацыянальнай і рэлігійнай эмансіпацыі беларусаў-католікаў, а таксама пазіцыі рымска-каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Апошні раздзел прысвечаны сітуацыі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей (украінцаў і беларусаў) каталіцкага веравызнання ў святле канкардату (пагаднення ўрада з Ватыканам).

Станоўчай ацэнкі заслугоўвае шырокі крыніцазнаўчы грунт, на які абапіраецца аўтар. Ён выкарыстаў малавядомыя або зусім невядомыя архіўныя дакументы польскіх і ватыканскіх рэлігійных інстытуцый. Каштоўнай крыніцай аказаўся таксама тагачасны друк. Дзякуючы такой багатай дакументацыі, М. Мруз змог падрабязна паказаць погляды і акцыі духоўных асоб і палітыкаў, якія вызначалі напрамкі дзеянняў і фармулявалі канцэпцыі, а таксама рэлігійныя арыентацыі жыхароў беларускіх і ўкраінскіх вёсак, якія не разбіраліся ў таемнасцях тэалагічных разыходжанняў, але былі прывязаны да сваіх традыцый, звычаяў і мовы.

Аўтар вельмі асцярожны ў фармулёўцы ацэнак. Як правіла, імкнецца іх пазбягаць, пераконваць чытача найперш дакладным выкладаннем фактаў, а таксама аналізам праблем. Каштоўным элементам разважанняў з'яўляецца клопат, каб вытлумачыць матывы паводзін асоб, якія трапляюць у поле зроку. Часам, хаця рэдка, гэта былі імкненні, далёкія ад веравызнання (напрыклад, некаторых праваслаўных духоўнікаў схіляла да згодніцтва жаданне атрымаць зямныя даброты). Куды часцей, аднак, гэта быў клопат пра нацыянальныя інтарэсы або жаданне пашырыць уплыў каталіцызму на тэрыторыі, дзе пераважалі «схізматыкі». Розныя недасказанасці аўтара сведчаць, аднак, што найперш яго трывожыць лёс беларускіх або ўкраінскіх прыхаджан, якія вельмі часта рабіліся прадметам палітычнага «розыгрышу» – як у XIX стагоддзі (калі уніятаў пад прымусам пераводзілі ў праваслаўе), так і ў Польскай Рэчы Паспалітай (калі імкнуліся павярнуць працэс у адваротным напрамку).

Названыя асаблівасці патрабуюць ад чытача павышанай увагі – каб яго не ўвялі ў зман некаторыя фармулёўкі, якія вядуць радавод ад актыўных асоб тагачасных падзей, але не абавязкова выяўляюць погляды самога аўтара. Так, да прыкладу, з пэўным здзіўленнем чытаў я наступны двухсэнсоўны сказ: «Каталіцкая царква пачала старанні пра тое, каб забяспечыць сабе адпаведныя правы, а таксама належныя пазіцыі ў дзяржаве». І толькі праз некалькі сказаў далей з'яўляецца тлумачэнне: «Біскупы пастуліравалі прызнанне рымска-каталіцкага веравызнання дзяржаўнай рэлігіяй» (с. 16). Далей чытаем, што «рымска-каталіцкая царква была расцэнена (у канстытуцыі. – **Е. Т.**) як роўная з іншымі рэлігійнымі аб'яднаннямі» (с. 17). Аднак з наступнай старонкі мы даведваемся, што тая фармальная роўнасць фактычна азначала заваяванне прывілеяванага становішча. Гэты тэзіс знойдзе развіццё і канкрэтнае абгрунтаванне ў многіх іншых фрагментах кнігі, асабліва ў раздзеле, прысвечаным канкардату. У апошнім меліся моманты, якія рабілі магчымай дыскрымінацыю католікаў, што належалі да нацыянальных меншасцей.

Кнігу, якая тут рэцэнзуецца, ацэньваю як вельмі важны аналіз складанай падставы грамадскіх і палітычных канфліктаў, што развіваліся ў першай палове XX стагоддзя на тэрыторыі, занятай у міжваенныя гады ўсходнімі ваяводствамі Польскай Рэчы Паспалітай. Асцярожнасць аўтара пры фармулёўцы агульных вывадаў, здольнасць паказваць станоўчыя аспекты дзейнасці тых ці іншых асоб, іх асабістых дадатных рысаў (але таксама слабасцей), альтруістычных матываў, што імі кіравалі, лічу значным дасягненнем М. Мруза. Усё гэта стварае магчымасць зразумець складаную сітуацыю, у якой сумленныя матывы дзеянняў большасці палітычных і рэлігійных кіраўнікоў неаднаразова прыводзілі да фатальных вынікаў, якія адчуваюцца да сённяшняга дня.

Даследчык паслядоўна абмежаваў свае развагі дакладна акрэсленай у назве тэрыторыяй, перыядам (толькі ў адзінкавых выпадках ён выходзіць за 1925 год, перш за ўсё ў сувязі з аналізам вынікаў канкардату ў дачыненні да меншасцей), а таксама праблематыкай (да прыкладу, зусім абыходзіцца яўрэйскае пытанне) і меў на гэта права. Задача яго паслядоўнікаў – засяродзіцца на параўнанні яго сцвярджэнняў і вывадаў з адносінамі на іншых этнічных памежжах і пазіцыяй каталіцкай царквы (а таксама іншых рэлігійных супольнасцей) у дачыненні да іншых нацыянальных і этнічных меншасцей. Асабліва гэта датычыцца становішча польскага насельніцтва на граніцы з Германіяй.

Некалькі больш дробных заўваг фармальнага характару. Сустракаюцца непатрэбныя паўторы. Станоўча трэба ацаніць напісанне няпольскіх прозвішчаў: побач са спаланізаванай іх формай аўтар прыводзіць у дужках і арыгінальную. Істотным выключэннем, для чаго я не знаходжу абгрунтавання, з'яўляюцца імёны і прозвішчы беларусаў... Чытачам будуць карыснымі карты, на якіх указаны межы размяшчэння меншасцей і веравызнанняў, а таксама межы біскупстваў.

*Ежы ТАМАШЭЎСКІ,*
*прафесар (Варшава)*
*Пераклад з польскай мовы*
*Таццяны ПЯТРОВІЧ,*
*«Голас Радзімы»*



Каваль шчасця

# Жывыя зоркі гісторыі

***Нядаўна ў выдавецтве «Беларусь» выйшла ў свет кніга Эдуарда Карніловіча «Імёны з небыцця». Выданне гэта прысвечана грамадска-палітычным дзеячам Беларусі. Сам аўтар так раскрывае яе асноўны змест: «Гэта дакументальна-гістарычныя нарысы аб ураджэнцах беларускіх губерняў, якія амаль усе былі павешаны, расстраляны, замучаны ў турмах і ссылках. Было гэта ў перыяд царскага самаўладдзя і ў перыяд сталінскага ўладарання. Вы пераканаецеся, што на рызыкоўныя пачынанні і цяжкія мучэнні яны ішлі без папроку і страху. Але ці трэба было пазбаўляць іх самага дарагога – жыцця, поўнага надзей, энергіі, таленту?» Такая трагічная праўда гэтай кнігі.***

Што ўяўлялі сабой гэтыя людзі з нашай нацыянальнай легенды, ці былі яны ахвярамі ў гістарычным сэнсе? Знайсці адказ на гэтыя пытанні мог даследчык спрактыкаваны, настойлівы і вопытны, якім і з'яўляецца Э. Карніловіч, аўтар многіх папулярных кніг аб незвычайных падзеях з беларускай гісторыі. У чарговай кнізе ён адкрыў для сучаснікаў лёсы змагароў за свабоду і справядлівасць, якія ахвяравалі за гэта сваім жыццём.

Пошук аказаўся плённым. Аўтар адабраў для незвычайнага апавядання 44 непаўторныя лёсы людзей, жыццёвы шлях якіх, на жаль, не быў услалы кветкамі, людзей, якім тагачаснае жыццё прапанавала самыя неверагодныя выпрабаванні. І яны прайшлі іх з гонарам.

Кнігу патрэбна чытаць уважліва, яна мае прыцягальную сілу духоўнага ачышчэння. Чытача, напрыклад, несумненна, уразіць нарыс «Не гнуцца гэтакія» – пра дзяўчыну з Навагрудка Эвеліну Уланоўскую, якая была народавольцам і вучылася на пецярбургскіх фельчарскіх курсах. Яе адправілі ў ссылку ў Аланецкую губерню, а потым пастаянна дабаўлялі тэрмін зняволення і пераводзілі ва ўсё больш жахлівыя месцы катаргі. У Сібіры Уланоўская сустрэлася з пісьменнікам Уладзімірам Караленкам, які быў уражаны высакародным духам і непахіснасцю маладой ссыльнай і ўвасобіў яе ў вобразе дзяўчыны-рэвалюцыянеркі ў апавяданні «Дзіўная». У беларускай дзяўчыне пісьменнік убачыў вялікую духоўную сілу, высокую чалавечую годнасць і непахісную веру ў ідэалы свабоды і справядлівасці, што і дапамагло ёй вытрымаць у сібірскай ссылцы больш за дваццаць гадоў.

Такімі мужнымі былі і іншыя беларускія дзяўчаты, пра якіх піша Э. Карніловіч. Напрыклад, магіляўчанка Лідзія Язерская, асуджаная за рэвалюцыйную дзейнасць на 13,5 года катаргі, якая памерла ў Якуцку. Трагічны лёс напаткаў нашых землякоў – матросаў Балтыйскага флоту Цімафея Глебку, Радзівона Каротчыка, Сцяпана Рагоўскага, якія за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання былі асуджаны да смяротнага пакарання.

Па асобных біяграфіях і вехах чалавечага жыцця, архіўных матэрыялах і інфармацыі перыядычнага друку розных часоў аўтар стварае яркі вобраз беларуса-змагара пачатку XX стагоддзя, сапраўднага пакутніка і героя, самавука і вядомага вучонага, таленавітага літаратара і загартаванага палітычнага дзеяча. Так, жыццёвым крэда Мацвея Фундамінскага са Шклова, настаўніка і кандыдата ў члены ЦВК БССР Аляксандра Акуліка з вёскі Баранавічы, рэктара БДУ Язэпа Каранеўскага з мястэчка Заслаўе, бацькі нобелеўскага лаўрэата Івана Алфёрава з Чашнікаў і многіх іншых было ўзбагачэнне ведамі, развіццё сваіх прыродных здольнасцей, што давала ім магчымасць і права ўздзейнічаць на людзей і ўдзельнічаць у палітычных падзеях. Палачанка Любоў Чарнова была здольным публіцыстам вядомага расійскага часопіса «Женское образование», кадэт Леў Петражыцкі стаў выдатным навукоўцам філасофіі і права, Іван Казлоўскі (пісьменнік Іван Батрак) вызначыўся вершамі і артыкуламі ў саюзным друку.

«Імёны з небыцця» – гэта кніга аб людзях у палітыцы і дзяржаўным будаўніцтве, самай складанай сферы чалавечай дзейнасці. Кніга аб таленавітых людзях, азораных марай аб шчаслівым жыцці. Мы можам ганарыцца, што яны былі, і смуткаваць, што, на жаль, заўчасна загінулі. Аўтар вяртае ў грамадскую свядомасць невядомыя ці даўно забытыя імёны. Цікавыя звесткі ўтрымліваюць нарысы «Як Акулік спрачаўся з Бухарыным», «Палітык прыстойных дзеянняў», «Нарком працы». Якіх інтэлектуальных вышынь дасягнулі нашы людзі, як многа зрабілі ў грамадска-палітычным жыцці і як шмат маглі яшчэ зрабіць! Аднак жыццё іх абарвалася на самым узлёце.

Публіцыстыка Эдуарда Карніловіча зацікавіць не толькі гісторыкаў, паліталагаў, настаўнікаў, студэнтаў і вучняў, але і практычных палітыкаў, якія прызваны абараніць рэальнае права чалавека на жыццё, пастаянна выкарчоўваць злачыннасць і тэрарызм. Было ў беларусаў у мінулым шмат цяжкага і трагічнага, дык хай жа сёння ў дэмакратычнай краіне, пра якую марылі і за што змагаліся героі кнігі, сцвярджаецца законнасць, стваральнасць і творчасць, што патрэбна чалавеку і дзяржаве.

Закончыў чытаць, закрыў кнігу, а перад вачыма імёны з небыцця – нязломныя, прагныя да жыцця і ведаў, здольныя да самаарганізацыі і ахвяравання, – незагойныя, балючыя рубцы на сэрцы беларускага народа. Сапраўды, гэта жывыя зоркі гісторыі, якія зіхацяць на беларускім небасхіле вечнасці і ўмацоўваюць нашу сучасную нацыянальную памяць. Занадта рана згарэлі яны ў полымі змагання, але і цяпер ад іх струменіць святло чалавечай трывогі і надзеі.

Добрае, шчырае слова сказаў Эдуард Карніловіч аб нашых ганаровых продках, вечных шукальніках шчаслівай долі для Беларусі. Запомнім іх імёны і задумаемся, што мы, сучаснікі, павінны зрабіць, каб прадоўжыць іх справу і здзейсніць нашу нацыянальную ідэю.

***Алег СЛУКА,***
***прафесар, «Рэспубліка»***





# Сядзібна-паркавае дойлідства Беларусі:

## гістарычны аспект і сучасны стан

***(Заканчэнне. Пачатак у № 29–30)***

Палацы, сядзібныя дамы («дамы з каламі») становяцца асноўнымі дамінантамі новых сядзіб. Архітэктура палацаў адрозніваецца велічнай прастатой. Знешняй імпазантнасці прыдворнага мастацтва мінулага была супрацьпастаўлена высакароднасць вобразаў, строгасць малюнка, сіметрычнасць, ураўнаважанасць і выразнасць кампазіцыі. У некаторых сядзібах (напрыклад, Кухцічы) формы класіцызму сумяшчаліся з мясцовымі прыёмамі бытавага будаўніцтва і дэкору. Класіцызм грунтаваўся на асацыяцыях з антычнасцю і быў накіраваны на выхаванне высакароднага героя свайго часу.

У стварэнні ансамбляў прымалі ўдзел разам з мясцовымі архітэктарамі (А. Бусырскі, А. Градэцкі, К. Падчашынскі, Б. Тычэцкі) рускія дойліды – М. Львоў, І. Староў, а таксама вядомыя замежныя майстры Дж. Кварэнгі, Дж. Сака, К. Спампані, Я. Габрыэль, Я. Бекер, М. Шульц, А. Ідзкоўскі, Д. Кларк, Ф. Яшчалд і інш.

Эра панавання класіцызму сумяшчалася з эпохай Асветніцтва, часам велічных перамен у многіх галінах жыцця. Класіцызм увасобіў яго асноўныя ідэі: натуральнасць, разумнасць і маральнасць. Прырода становіцца эстэтычным узорам. Мастацтва можа яе толькі імітаваць, імкнучыся да сваёй дасканаласці. Цікавасць да прыроды прывяла да новага пейзажнага парку ў сядзібе. Істотна мяняюцца ў гэты час і адносіны да самога дрэва. Калі ў рэгулярных парках дрэва з'яўлялася зыходным будаўнічым матэрыялам для шпалер і баскетаў, то ў пейзажных парках яно становіцца вобразам, індывідуальнасцю. У парках рэалізоўвалася свабодная, дынамічная мастацкая кампазіцыя, раскрывалася бязмежнасць прыроднага ландшафту, таму пейзажныя паркі мелі найбольш выразныя мясцовыя рысы. Паркабудаўнікі адкрывалі і падкрэслівалі натуральную прыгажосць прыроды, а штучным пейзажам надавалі выгляд натуральных. Не план саду, а выгляд саду – «пейзаж» стаў іграць дамінуючую ролю ва ўсіх работах па паркабудаўніцтву. Далёкія перспектывы, чаргаванне адкрытых і закрытых прастораў, змена пейзажаў, пабудаваных на кантрастах, гульня святла і ценю, умеранасць у выкарыстанні скульптуры, малых архітэктурных формаў з'яўляліся асноўнымі прыёмамі стварэння пейзажных кампазіцый. Многа ўвагі надавалася воднай паверхні, а таксама разнастайнасці асартыменту дрэўных і кветкавых раслін.

Рамантызм унёс новыя матывы ў пейзажныя паркі. У адпаведнасці з рамантычным успрыманнем прыроды мікрасвет сядзібнага парку быў накіраваны на раскрыццё духоўнага настрою чалавека, яго псіхалагічнага стану. Усе элементы парку былі настроены на інтымны кантакт з чалавекам. Адасабленне ў садах стала не сродкам філасофскага паглыблення ў сутнасць прыроды, а прыгожым само па сабе. Яшчэ больш узрастае культ прыроды, прыроды, не закранутай дзейнасцю чалавека.

У архітэктуры сядзібных будынкаў пошук новых формаў праходзіў праз асваенне гістарычных стыляў і праявіўся ў асноўным у псеўдаготыцы (Піпенберг, Наруцэвічы, Прылукі, Косава, Юрцава). У паркі ўводзяцца гроты, капліцы, альтанкі, экзатычныя дрэвы, розныя гаспадарчыя пабудовы з падкрэсленай утылітарнасцю (вежы для вэнджання мясных прадуктаў, вінакурні, кузні, лядоўні, млыны). Асабліва паважаліся помнікі, эпітафіі на каменнях, памятныя валуны, капліцы (Русінавічы, Роткаўшчына, Двор Дунайчыцы, Залессе). У Маліноўшчыне Ю. Свентаржэцкай была пабудавана і ў 1840 г. асвечана капліца ў выглядзе пірамiды. Акрамя таго, напасрэдна ў парку меліся памятны абеліск і пахавальны склеп.

Тэндэнцыі новага напрамку, адзначанага павышанай пачуццёвасцю ў адрозненне ад гераіціраванай і патэтычнай эпохі барока, часцей за ўсё развівалі гаспадыні сядзіб. Так, Людвіка Горват ператварыла старажытны «зачараваны» замак у Прылуках у цудоўны палац у формах псеўдаготыкі і збудавала адну з найлепшых рамантычных сядзіб Міншчыны.

Пачынаючы з другой паловы XIX ст. класіцызм паступова ўступае месца эклектыцы і стылізатарству, што знайшло адлюстраванне ў сядзібным дойлідстве. Планіроўка сядзіб становіцца настолькі разнастайнай, што яны з цяжкасцю паддаюцца тыпізацыі. Многія сядзібы набываюць яўныя ўтылітарныя рысы, становяцца магутнымі гаспадарча-вытворчымі комплексамі (Абадоўцы, Парэчча, Лошыца, Ігнацічы, Вішнёў). Сядзібнае дойлідства гэтага часу прадстаўлена шматлікімі мясцовымі варыянтамі. Сядзібныя дамы будуюцца ў формах неаготыкі (Паўлінова, Церэбяшоў), неарэнесансу (Лынтупы), неабарока (Тракенікі, Заполле), неакласіцызму (Расна, Цясноўка, Мацькаўцы, Стралкова, Галошава, Ястрамбель, Александроўшчына) з выкарыстаннем формаў псеўдарускага стылю (Дзям'янкі), драўлянага дойлідства (Корсакі, Трусевічы, Багданаў, Каралін, Пяцеўшчына). Шэраг дамоў быў пабудаваны ў рэтраспектыўна-замкавых формах (Краскі, Стайкі, Расоны). Масіўны сядзібны дом Бунгэ ў Новым Двары на скляпеністых сутарэннях нясе рысы «архаічнага барока». Трэба адзначыць, што будынкі вызначаюцца адзінствам вобліку, пераемнасцю ў выкарыстанні традыцыйных кампазіцыйных прыёмаў, стрыманасцю стылізацыйных матываў, умеранасцю дэкору. Адным з найпрыгажэйшых сярод іх з'яўляецца неабарочны палац Л. Святаполк-Чацвярцінскага ў Жалудку, пабудаваны паводле праекта У. Марконі.

Незвычайная разнастайнасць праявілася ў паркабудаўніцтве гэтага перыяду. У сядзібах працягваліся традыцыі пейзажнага паркабудаўніцтва (Мацькаўцы, Любань, Лапухі, Рэпіхава, Дашкоўка, Межава, Краскі, Парэчча). Але ў іх усё часцей адначасова выкарыстоўваліся прыёмы рэгулярнай планіроўкі, тапіярнай апрацоўкі раслін, узрастала утылітарнасць. Нярэдка гаспадарчая мэтазгоднасць становіцца вядучым фактарам. У невялікіх сядзібах развіваецца рэгулярная планіроўка па тыпу дэкаратыўных садоў у выглядзе аднаго прамавугольніка (Чэхаўшчына, Гаруцішкі, Трусевічы, Крывічы, Шацк, Габрыелеўка, Маркіняты) або некалькіх прамавугольнікаў, утвораных сеткай алеяў (Грабаўка, Каралін, Варонка, Мясота, Міхайлоўшчына). Уласнікаў сядзіб вабіла практычнасць і зручнасць рэгулярных паркаў, у якіх, падобна сельскім дэкаратыўным садам Германіі і рускім садам XVII ст., вырошчваліся пладовыя дрэвы, агародніна, пладова-ягадныя і кветкавыя расліны. Найбольш каштоўнымі мастацкімі ўзорамі таго часу з'явіліся паркі, закладзеныя Марыяй Даротай дэ Кастэлян, княгіняй Радзівіл, у духу мінулых стыляў з адраджэннем матываў рамантызму ў Нясвіжы і Манькавічах, а таксама Чапскімі у Станькаве.

За апошні час у сядзібным дойлідстве Беларусі адбыліся вялікія змены. З ліку 1173 інвентарызаваных (Брэсцкая, Гродзенская, Віцебская, Мінская вобласці) захавалася прыкладна палова. Сядзібы, што захаваліся, усе без выключэння істотна змяніліся. Парушана іх прасторавая арганізацыя, больш за ўсё страчаны палацы, сядзібныя дамы, малыя архітэктурныя формы, змяніўся склад паркавых насаджэнняў, перасталі функцыянаваць водныя сістэмы. Па ступені захавання сядзібы класіфікуюцца намі як сядзібы, фрагменты сядзіб, паркі, фрагменты паркаў, адзіныя фрагменты (напрыклад, фрагмент дрэвастою парку, збудаванне ці вадаём). Сярод аб'ектаў Брэстчыны адпаведна маецца: сядзіб – 26, фрагментаў сядзіб – 15, паркаў – 19, фрагментаў паркаў – 22, адзіных фрагментаў – 101. На Віцебшчыне гэтыя паказчыкі адпаведна складаюць 35, 19, 17, 14 і 44.

Найбольш значнай адзінкай сярод адзначаных катэгорый з'яўляюцца сядзібы. Яны захаваліся прыкладна ў гістарычных межах; маюць адносна выразную планіровачную структуру, уключаюць палац (сядзібны дом) і іншыя забудовы, а таксама парк, вадаём (водныя сістэмы). Гэта катэгорыя аб'ектаў складае адну з самых значных частак культурнай спадчыны рэспублікі: Гомель, Нясвіж, Мір, Жылічы, Сноў, Высокае, Прылукі, Жэмыслаўль, Свяцк, Залессе, Лявонпаль, Раванічы, Чырвоны Бераг, Опса, Жалудок, Рагозніца, Краскі, Лошыца, Пружаны, Бальценікі і інш. Многія сядзібы (каля 80), акрамя таго, маюць мемарыяльную каштоўнасць. З сядзібамі звязаны многія славутыя імёны: Т. Касцюшка, Ю. Нямцэвіча, А. Міцкевіча, М. Агінскага, М.К. Агінскага, Н. Орды, Э. Ажэшкі, Т. Зана, І. Рэпіна, І. Хруцкага, І. Чэрскага, Р. Траўгута, Т. Ваўжэцкага, І. Дамейкі, І. Хрэптовіча, М. Богуш-Шышкі, У. Дыбоўскага, З. Мінейкі, Ч. Янкоўскага і інш.

На жаль, каштоўная спадчына краіны перажывае цяжкае становішча. Сядзібы разбураюцца. Разбураюцца ад часу, але ў асноўным ад безгаспадарчых адносін. Без элементарнай увагі і догляду гіне любое чалавечае тварэнне. Найбольш знішчальнай для сядзіб з'яўляецца сучасная забудова, якая наогул не павінна праводзіцца на гістарычных тэрыторыях. З разбурэннем дамб, зарастаннем каналаў перасталі нармальна функцыянаваць водныя сістэмы, што сказваецца на гідралагічным стане паркавых тэрыторый. Вельмі непажаданы для сядзіб змены навакольнага прыроднага асяроддзя, што вядзе да парушэння візуальных сувязей з прыроднымі ландшафтамі, страты відавых перспектыў. Сядзібы не маюць узаконеных ахоўных і буферных меж. Іх дзяржаўная ахова носіць фармальны характар.

У асабліва цяжкім становішчы апынуліся архітэктурныя збудаванні сядзіб. Звычайна будынкі даводзяцца да аварыйнага стану, уладальнікі кідаюць іх і пасля завяршальнага рабавання, без усякай асновы і права разбіраюцца мясцовымі жыхарамі на цэглу. З ліку 254 улічаных будынкаў на Міншчыне ў аварыйным стане, напрыклад, 56, у руінах – 24. Часцей за ўсё гістарычныя будынкі не ведаюць рамонту, і нават самыя значныя – кансервацыі.

У апошнія гады проста кінуты як непатрэбныя, пустуюць і разбураюцца лепшыя ў краіне палацы, сядзібныя дамы эпохі класіцызму (Высокае, Паланечка, Дзедзіна, Грымяча, Раванічы, Грозаў, Бігосава, Мазолава, Обаль, Мураванка, Туча, Беразіно) і эклектыкі (Стайкі, Паўлінава, Лынтупы, Жалудок, Краскі, Лішкі, Ігнацічы, Старынкі, Міхалконі, Каралінаў). Разабраны на цэглу велічны палац Свяцкіх у Старой Беліцы. Рухнулі руіны палаца ў Радзівілімонтах. Арандатарамі разабраны дом Хамінскіх у Альшэва. Разбураюцца арыгінальны фальварак Мураванка Храптовічаў у Шчорсах, жылы комплекс батракоў сядзібы Біспінгаў у Струбніцы і г.д. Такі ж самы лёс маюць фамільныя сядзібныя капліцы знакамітых родаў (Грушаўка, Закозель, Моладава, Верхняя Чэрніхава, Сула, Вялікая Ліпа, Завушша, Галынка, Жалезніца, Гняздзілава, Шайкуны і інш.). Незвычайны лёс у сядзібнага дома ў Ястрамбелі. Адноўлены ў апошні час, вельмі шыкоўны рэнесансны «палацыцо» зноў стаіць без акон і дзвярэй. Да такога стану хутка дойдуць адноўленыя ў апошні час прамысловыя будынкі Чапскіх у Прылуках.

Між тым нельга не адзначыць добры стан, разумнае прыстасаванне да новага функцыянальнага выкарыстання сядзіб у Свіслачы, Рагозніцы, Красках, Глыбокім, Закозелі, Яхімаўшчыне, Камарове, Гародні. Шыкоўны выгляд прынялі пасля рэстаўрацыі сядзібныя дамы ў Навагрудку, Пружанах, Малым Мажэйкаве. Адноўлены сядзібы Багушэвіча ў Кушлянах, А. Міцкевіча ў Навагрудку і Завоссі, І. Рэпіна – у Здраўневе. Добра адноўлены водныя сістэмы ў Шчорсах, Асташыне Мураваным і асабліва ў Нясвіжы і Жукоўшчыне. Падняліся з руін многія капліцы (Аўгустовак, Гародна, Вярдомічы, Масаляны, Вераскава, Кіякова і інш.). Упарадкаваны фамільныя захаванні Ельскіх у Дудзічах, Наркевіч-Ёдкаў у Над-Нёмане. Адноўлены, хоць не зусім удала, паркі Нясвіжа, Парэчча. Узорам па ўпарадкаванні старадаўніх паркаў у рэспубліцы па ініцыятыве райвыканкама з'яўляецца Ляхавіцкі раён.

***Гэтыя дабрачынныя прыклады паказваюць, што старадаўнія сядзібы могуць жыць, выкарыстоўвацца, служыць людзям. Яны даюць падставу для веры ў добрую будучыню шматпакутлівага сядзібнага дойлідства краіны.***

***Анатоль ФЕДАРУК,***
***доктар біялагічных навук, прафесар БДПУ імя М. Танка***

## *Успаміны Аляксандра Касцюка*

Згадкі свайго земляка, жыхара вёскі Пацун, пра ваенны час запісалі на магнітафонную стужку вучні Дварчанскай СШ Свіслацкага раёна. У фанатэцы «Жывыя галасы гісторыі» будуць захоўвацца таксама ўспаміны іншых мясцовых старажылаў, ветэранаў вайны і працы.

## Музей у лесе

Пра гэта рупіцца адміністрацыя Валожынскага лясгаса. У адным з лясніцтваў для гэтага адведзены спецыяльныя залы для экспазіцый па гісторыі развіцця галіны, дзе змешчаны фатаграфіі лепшых спецыялістаў, паважаных людзей прадпрыемства. Большасць экспанатаў – гэта унікальныя архіўныя дакументы. Звяртаюць на сябе ўвагу форма леснікоў, спецыяльнае абсталяванне лесанарыхтоўшчыкаў яшчэ мінулага стагоддзя. Тут і смолапрыёмнікі, вышынямеры, гідраклiны, мерныя стужкі, а таксама чучалы птушак і жывёл, што насяляюць Валожыншчыну.



Фота Міхася ХАМІЦА

## *Плюс сёмы том*

А ёсць ён «Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён». Па словах галоўнага спецыяліста Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алены Шыцік, гэта выданне з'яўляецца як бы своеасаблівым дапаўненнем да шасцітомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Яго картаграфічны матэрыял паказвае археалагічныя культуры з часоў палеаліту, першыя дзяржаўныя ўтварэнні, землі Беларусі, якія ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Асобныя карты прысвечаны войнам XVI–XIX стагоддзяў, якія праходзілі на тэрыторыі нашай краіны. На картах таксама адлюстроўваецца гісторыя БССР і гісторыя незалежнай Рэспублікі Беларусь.





# Муж і жонка – паэты

*Мы атрымалі некалькі бандэролей з Турава, падпісаных адным почыркам. У іх – цёплы ліст да мяне, некалькі рукапісаў паэзіі, прозы і публіцыстыкі, кніга вершаў "Дрэва вернасці".*

*Аўтар ліста, рукапісаў – Кацярына Папова, а зборніка – яна з Віктарам Папком. З допісу, а яшчэ больш ад фалькларыста Міколы Котава з хваляваннем даведаўся пра нялёгкі лёс Кацярыны Рыгораўны – няпроста, але шчасліва ішла ў жыцці, пасля заканчэння Мазырскага педінстытута выкладала родную мову і літаратуру ў СШ № 1 Турава, будзіла ў ім духоўнае жыццё, пісала вершы. Ды падсцерагла бяда: трапіла ў аўтааварыю, амаль два гады была прыкавана да ложка, былі і іншыя напасці, але ўстояла, праявіла чалавечую мужнасць, нястрымную цягу да жыцця і творчасці.*

*Дапамог ёй у гэтым Віктар Папок – ураджэнец Піншчыны, цяпер вядучы інжынер па ахове працы і тэхніцы бяспекі ў ДПУ "Нацыянальны парк "Прыпяцкі", і таксама паэт, які пачынаў пісаць на рускай мове, а цяпер, глыбока ўспрыняўшы словы любімага жончынага Ул. Караткевіча пра тое, што трэба "любіць гэтую святую зямлю аддана і да канца, іншай вам не дадзена і не патрэбна", выяўляе свае розум і душу па-беларуску.*

*Здароўя, плёну вам, Кацярына Рыгораўна і Віктар Мікалаевіч! Цяпер знаёмім чытачоў нашай газеты з вашай паэзіяй, пасля пастараемся змясціць і іншыя матэрыялы.*

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*



Віктар ПАПОК



Кацярына ПАПОВА ... «Скарына» СШ № 1 г. Турава

**Кацярына ПАПОВА**

## *Тураву*

Хай ужо пастарэў ты, мой горад,
Быў нялёгкі цяжар на плячах.
Ды заўсёды ў вясновую пору
Радасць бачу я ў мудрых вачах.

Бы фарсісты юнак углядаешся
Ты ў люстэрка чароўнай ракі.
Верным сэрцам ты к ёй прыхіляешся,
Шэпчаш чуйнае штось ля шчакі.

І хвалюецца дзіўная Прыпяць,
У цябе закахана даўно.
О мой Тураў! Ты – шчасця жывіца
І душы беларускай святло.

## *Існасць*

Над лёсам кружаць шэрань, золь?
Тарбіна поўная няўдач?
Тады сказаць табе дазволь:
– Не рвіся, дружа, і не плач!

Бо вечныя дабро, любоў,
Гасподня літасць, благадаць,
Душэўнасць землякоў, сяброў,
Што не купіць і не прадаць.

Старанна высявай святло,
Ляці ў таемнасць небыцця,
А хтосьці кіне: «Адплыло...»
Ды існасць вечная жыцця.

## *Песня маці*

З дзяцінства ў душу мне
Песня запала,
Якую матуля
Тужліва пяяла:

«Пасею гурочкі
Нізка над вадою...»
Цешылася маці
Красуняй дачкою.

«Буду паліваці
Горкаю слязою,
Толькі б ты, дачушка,
Мела шчасце й долю.

Расціце, гурочкі,
У чатыры радочкі...» –
І я ўжо спяваю,
І слухаюць дочкі.

## *Прысвячэнне*

*Аляксею Канстаніцінавічу Каўку, літаратуразнаўцу, гісторыку, грамадскаму дзеячу*

Сёння хораша, радасна, светла –
Атрымала на ліст свой адказ.
Цеплынёю ягонай сагрэта,
Таму ў думках лячу я да Вас.

На імгненне хачу прыхіліцца,
Сэрца хворае Вам падлячыць.
Прыхапіла вадзіцы з крыніцы,
Зможа раны ж усе залячыць!

У гаючую сілу паверце!
Не хіліце ў журбе галаву.
Хай жа стукае Вашае сэрца:
– З Беларуссю ў сэрцы жыву.

## *Водар мацыёлы*

*В. Папку*

Нялёгкі крыж паслаў табе Гасподзь,
Сказаў: «Нясі без нараканняў.
Як цяжка будзе, да мяне прыходзь,
Бо я пашлю яшчэ выпрабаванні».

І ты панёс жа на плячах сваіх
З упартасцю, і годна, і цярпліва
Той крыж наскрозь з пакут і мук маіх:
Каму – на радасць, а каму – на дзіва.

Ты пад акенцам кветак насадзіў:
Вяргіні, мацыёлы, хрызантэмы...
Іх водарам мяне запаланіў,
Таму шапчу: «Мой родны, мы ў Эдэме!».

І мы ўдваіх, забыўшыся на крыж,
Такі цяжкі, пакутніцкі і горкі,
Зачаравана ўслухваемся – ціш.
І ўдыхаем водар мацыёлкі.

**Віктар ПАПОК**

## *Успаміны*

Я гладжу стан халоднай арабіны
І верую, што скончыцца зіма.
Адыдуць сцюжы лютай успаміны,
І зноўку прыйдзе, глянецца вясна.

І зазірне мне ў вочы гэтак шчыра,
І запытае: «Год як ты пражыў?
Дзе лета бавіў, бачыў як у вырай
Касяк апошні над зямлёй кружыў?

І што рабіў, калі адпачывала
Зямля пад белай коўдраю зімой?»
Я адкажу: «Цябе душа чакала,
Ты зноў мая, цяпло душы зямной».

За стан зноў абдымаю арабіну,
Прыбралася, што ў квецень па вясне.
Пялёсткамі злятаюць успаміны,
Нібыта ты вярнулася ка мне.

## *Надзея*

Я так спяшаўся да цябе сюды!
І восень шчодра фарбы дорыць нам.
Няхай адпладаносілі сады.
Паклонімся кастрычніцкім барам.

Зноў павязу цябе я ў невядомасць...
У наш з табою сумны лістапад.
І дрэвы весялей мо загамоняць,
І пацяплее, можа, твой пагляд.

А можа, павязу цябе ў надзею,
У залатыя восеньскія дні.
Апошні промень душы адагрэе...
О любая, красуйся і жыві!

Стамілася і восень ад разлукі,
Таму Гасподзь дзянёчак даў такі.
Давай спляцём натхнёна нашы рукі
І ў шчасце пашыбуем напраскі.

# Чужое – вывучаем, сваё – ведаем

Мы жывём у час глабалізацыі і новых інфармацыйных тэхналогій. Міжнароднай мовай усё больш хутка і настойліва становіцца англійская – хоць на ёй спрадвеку размаўляе не такая вялікая колькасць людзей, як, скажам, на кітайскай, але ведаюць у той ці іншай ступені дзве трэці чалавецтва.

У свеце з'яўляюцца нават такія гібрыды, як francanglais – мова, якой пачынаюць карыстацца ў Францыі, спалучаючы французскую гаворку з «моднымі» англійскімі слоўцамі альбо дадаючы да іх франкамоўныя словаўтваральныя элементы. Патроху англійская мова ўкараняецца і ў наш з вамі, беларускі лад жыцця. Зараз, пэўна, ніводная грамадская сфера: палітыка ці эканоміка, адукацыя ці культура, навука ці новыя інфармацыйныя тэхналогіі – не абыходзіцца без ужывання англійскіх слоў! Яны як бы служаць пацвярджэннем тваёй «сучаснасці», таго, што ты ў курсе апошніх падзей і не адстаў ад жыцця. Толькі... наколькі правамернае такое паважлівае стаўленне да слоў замежных і ігнараванне свайго ўласнага лексічнага запасу?

Возьмем для прыкладу камп'ютэры. Зараз гэта ўжо амаль неад'емная частка сучаснага жыцця. Пэўная частка моладзі проста не ведала б, чым заняцца, калі б не было камп'ютэрных гульняў, Інтэрнэта і г.д. З гэтай сферы, прынамсі, і прыходзіць да нас вялікая колькасць слоў-іншаземцаў. Напрыклад, замест нармальнага (з пункту гледжання маўлення) выразу «націсні клавішай мышкі на значок гэтай папкі» шырока ўжываецца «клікні гэту папку» (ад англійскага «click» – шчаўчок). Калі вы мала што разумееце ў будове і спосабе дзеяння камп'ютэра, то карыстальнікі ПК са стажам абзавуць вас «ламерам» (па-іншаму, дурнем). А сябе, адпаведна, «юзерамі» – ці нават «хакерамі». Ці многія з іх ведаюць значэнне гэтых слоў? Праверце, спытайце! Што ж датычыцца камп'ютэрных гульняў, то ў наш час існуе такая колькасць своеасаблівых тэрмінаў, уласцівых кожнай канкрэтнай гульні, што пералічваць іх проста няма сэнсу: доўга, дый большасці людзей незразумела.

> *«Мадам і месье, жэ нэ'-манж па сіс жур, гебен зі мір бітэ цванціх капеек!».*
>
> **З кінафільма «12 крэслаў»**

Другая магутная і невычэрпная крыніца замежных, пераважна зноў-такі англійскіх слоў, – музыка. Калі гадоў 15–20 таму наша краіна ведала толькі класікаў, монстраў айчыннай і замежнай поп- і рок-культуры, то цяпер моладзь ледзь не на памяць вучыць біяграфію кожнай «свежасфабрыкаванай» зоркі, перапісвае словы песень, ведае творчыя планы куміра... Як ні дзіўна, але нават музыка перастала адпавядаць асноўнаму свайму прынцыпу: не важна, на якой мове выконваецца песня, галоўнае, якія пачуцці яна выклікае. Сёння па імені выканаўцы ці назве гурта не зразумееш, што за краіну ён прадстаўляе: большасць спяваюць па-англійску і імкнуцца на музычны рынак ЗША.

З новымі песнямі прыходзяць і новыя словы – нават цэлыя выразы. У 60-х дзявочыя сэрцы запальваліся, калі гучала незразумелае, аднак пранікнёнае «Yesterday» (хто б мог падумаць, што гісторыя лірычнай песні пачалася з... яечні); у 70-х моладзь напаўняла ўвесь свет крыкам, чуючы радок «Smoke on the water»; 80-я адзначыліся намерам гурта з каралеўскім імем: «We will rock you»; у 90-я паступіла крыху непрыстойная просьба бялявага юнака, які пражыў кароткае жыццё ў стане нірваны! «Rape my, my friend»...

Што будзе культам для моладзі па заканчэнні гэтага дзесяцігоддзя, меркаваць пакуль рана. Але трэба адзначыць, што новае – гэта, як водзіцца, добра забытае старое, і ўрэшце рэшт усё мае вярнуцца да класічнага «Let's my people go». Пакуль жа мы губляемся сярод новамодных англамоўных назваў музычных плыняў і накірункаў: мэйнстрым, трэш, джангл, хаус, брэйк-біт – і яшчэ тысяча і адзін стыль. Беларуская музычная індустрыя таксама цалкам завязаная на выкарыстанні англійскіх слоў: усе якасныя сучасныя інструменты вырабляюцца за мяжой і носяць мілагучныя іншаземныя назвы, гуказапісвальныя кампаніі маюць англізаваныя імёны, дый рэпертуар у многіх гуртоў складаецца з англамоўных песень, як гэта ні сумна. Можна нават весці гаворку аб паступовым стварэнні музычнага «белінгліша»: як вам назва нядаўняга беларускага канцэрта «Пасадзіў DEAD RAPку»?

...Зазірніце ў тэлепраграму на бліжэйшы дзень. Звярніце ўвагу на прапанаваныя кінафільмы. У асноўным яны – «мэйд ін Галівуд», дзе вырабляецца мо палова дабраякасных кінакарцін свету. Але, на жаль, і палова самых горшых стужак ствараецца таксама ў Галівудзе. Зараз у моду ўваходзіць прагляд англамоўнага фільма без перакладу ці з субцітрамі – гэта дапамагае многім гледачам узбагаціць сваё веданне замежнай мовы. Але ж... У сучасных фільмах – асабліва такіх папулярных баевіках, трылерах – шмат нецэнзурнай лексікі. Ці пойдзе такое вывучэнне мовы на карысць маладому чалавеку, калі нават дзеці ведаюць, што хаваецца за нейтральным перакладам «Чорт вазьмі!»?

Мы жывём у час глабалізацыі і сусветнай камунікацыі.

Глабалізацыя – а чаму не сказаць «абагульненне»?

Камунікацыя – а чаму не «стасункі»?..

Пражыць зараз без ведання замежнай мовы складана, а ў хуткім часе, можа быць, будзе і зусім нерэальна: само грамадства патрабуе развіцця зносінаў з іншымі краінамі. Я зусім не заклікаю паўтараць вопыт вядомага ў буржуазнай Расіі «рэфарматара», які патрабаваў сабе «макраступы» замест галёшаў. Вучыце замежную мову: англійскую, нямецкую, французскую, іспанскую, італьянскую, японскую, хіндзі, суахілі і г.д. Добра ведайце хоць адну з іх! Толькі – і сваю, родную не засмечвайце, не забывайцеся. «Каб не ўмёрлі».

***Аляксандр СЕРЖАНОВІЧ, «Чырвоная змена»***

***Прапануем вам для самастойнага пошуку ў слоўніках яшчэ шэраг распаўсюджаных сёння іншамоўных слоў з розных сфер жыцця.***

БІЗНЕС, ФІНАНСЫ: лізінг, франчайзінг, мерчандайзінг, дылер, копірайт, брэнд;

МУЗЫКА: фронтмен, мікшэр, рэмікс, бонус-трэк, кліпмейкер, сінгл, чарт, ратацыя, рэкордэр;

КАМП'ЮТЭРЫ: офлайн, браузер, трафік, правайдэр, геймер, Байнэт банер, сервер, лінк, чат;

МОДА, ШОУ-БІЗНЕС: прадзюсер, крэатыў, трэнд, цішот, прамоўшн, піар, бігборд, сіквел;

ХОБІ І ЗАБАВЫ: дыгер, дайвінг, стрытрэйсінг, скейт, трыал, сквош, каяк, кайцінг, флэш-моб і г.д.

Не перажывайце, калі ў некаторых слоўніках ці энцыклапедыях адказаў не знойдзеце. Яны проста не паспяваюць выдавацца ў свет з такой жа хуткасцю, з якой нараджаюцца – і прыходзяць да нас – новыя паняцці і іх назвы. Спытайце пра значэнні незразумелых слоў падлеткаў: дачку, сына, пляменніка, суседа... Яны могуць не ведаць, што такое «турнюр» і чым адрозніваецца «натацыя» ад «сентэнцыі», але што такое «чарт», у большасці выпадкаў растлумачаць. Абмяняйцеся вопытам! Каб і добра сказаць па-беларуску!

## Жнівень

**20 – Парахневіч Міхась** (Міхаіл Прохаравіч; 1934, Старадар. р-н – 2001), пісьменнік – 70 гадоў з дня нараджэння.

**28 – Бяспалы Змітро** (Дзмітрый Аляксандравіч; 1934, Хойн. р-н – 1999), пісьменнік – 70 гадоў з дня нараджэння.

**30 – Ходзька (Барэйка) Аляксандр** (1804, г.п. Крывічы – 1891), паэт, фалькларыст, славіст, усходазнавец – 200 гадоў з дня нараджэння.

**31 – Акцябрскі, г.п.** (1954) – 50 гадоў з часу ўтварэння.




Фота Ігара ГРЭЧКІ

*Жарт*

# Як... з кім... і колькі...

Быццам бы і няма сэнсу запаўняць старонкі газеты байкамі пра тое, хто і як п'е гарэлку і іншыя слабыя і моцныя напоі. У розных народаў і розныя звычкі. Адны п'юць шмат, другія – мала. Адны п'янеюць з малой чаркі, другім і многа здаецца «малым».

Даўно вядома, што расіянін п'е ўсё і многа, п'е за свой кошт, за кошт усіх, хто налівае, і нават у крэдыт. Французу наканавана піць нямала, але тое, што ён п'е, у нас называецца «квасам». Гарэлкі француз баіцца, як агню, і... заплаці яму, піць яе не будзе. Немец гатовы «дрынкаць» памалу, але па часе – доўга і, у асноўным, за кошт «бліжняга». Паляк, як і беларус, п'е «нармальна» да «ўпору», праз «упор» не пералазіць, бо колькі б ні піў – ведае, што заўтра трэба ісці на працу. Любіць «чужую», але калі яна скончылася, дабірае «сваёй».

А вось як п'юць «непітушчыя» шведы, мала хто ведае! Яны «непітушчыя», таму што ў іх, у Швецыі, «сухі закон»... даведзены амаль да абсурду коштам на моцныя напоі.

**Даведка:** *«Сухі закон» прыдумалі амерыканцы, якія і пры сваім «сухім законе» заўсёды хадзілі «мокрымі». Гэты унікальны вопыт яны праз акіян перадалі Еўропе. Спакусу «замачыць» «сухі закон» у ахвотку перанялі рускія, фіны і іншы люд. Яны спачатку стварылі свае «сухія» ці «паўсухія» законы, а потым, кожны сваім метадам, іх «размочвалі». Як гэта рабілася ў нас – мы ведаем, я ж хачу расказаць, як гэтае «размочванне» робіцца ў іх, – на прыкладзе шведаў.*

Шведы наогул люд арыгінальны: дома ні-ні, нават паху яе рэзкага не пераносяць. Усё сваё імкненне дагнаць і перагнаць нас яны пераносяць праз сваю мяжу, калі ўдаецца наладзіць своеасаблівы «экстрым-тур» у краіну, дзе традыцыйна ігнаруюць «сухі закон». Пра адзін такі выпадак, які я на свае вочы бачыў, і хачу расказаць...

Не так ужо і даўно быў я прынятым у адной балтыйскай краіне, мужчынскае насельніцтва якой звязана з намі, беларусамі, адным і тым жа генетычным кодам. Усё было як у людзей: і чарка, і шкварка (чамусьці яе замяняў паштэт з гусінай пячонкі). Трэба дадаць, што адбывалася гэта ў вельмі дарагім рэстаране, пры свечках і ціхай музыцы.

Мой субяседнік, як і належыць прадстаўніку краіны з глыбіннай гісторыяй і культурай, знайшоў у маёй асобе зацікаўленага слухача і разуменне яго гонару за сваю нацыянальную культуру, уключаючы і культуру піцва. Усё вакол нас спрыяла гэтай гаворцы.

Як раптам за суседні стол уселася развясёлая кампанія з пяці чалавек, якім, відаць, не хапіла ў тым месцы, дзе дагэтуль былі. Нашай разумнай і культурнай бяседзе прыйшоў канец. Гучны смех суседзяў пераступова перайшоў у звярыны роў, рытмічныя песні – у не менш рытмічны грукат кулакоў аб стол, тупат ног... Я адчуваў, што мой гаспадар гатовы быў праваліцца скрозь зямлю: ён рабіў усё, каб нейк прыпыніць разгул за суседскім сталом, але ўсё было дарэмна... Ад гэтага ўсяго ён стаміўся і нарэшце прастагнаў у апраўданне сваёй добрай, старой краіны: «Не, гэта не нашы, гэта шведы. Яны прыплываюць раніцай на пароме як турысты, каб выпіць гарэлкі. Напіваюцца, а вечарам адплываюць. Бывае, што падаюць за борт парома і гінуць». Я паспачуваў гаспадару і разам з тым паспачуваў і шведам, якія менш чым за суткі выбіралі сваю паўгадовую норму.

Можа, гэты эпізод і не захаваўся б у памяці, каб не паўтор яго адзін да аднаго на наступны вечар. Праўда, была іншая кампанія, іншы, больш малады склад яе, але піцво лілося, як і ў папярэдніх, вялікімі фужэрамі. Рогат стаяў той жа – весела ім было, як і папярэднікам. Яны ж таксама не думалі, што можна зваліцца з парома ў ваду.

Але па змрочным твары майго гаспадара я бачыў, што сітуацыя больш небяспечная, чым учарашняя. І я вырашыў, што настаў момант, каб яго супакоіць. Нічога іншага я не прыдумаў і паўтарыў тыя ж словы, якія ён сказаў мне напярэдадні: «Не звяртай увагі, гэта ж шведы. Яны на адзін дзень прыплываюць на пароме, як турысты. Цэлы дзень п'юць, напіваюцца, а вечарам адплываюць. Бывае, і падаюць за борт у халодную ваду Балтыйскага мора».

Мой гаспадар засмяяўся і адказаў: «Не, гэта не шведскія турысты. Гэта вельмі прыстойныя бюргеры-абарыгены нашай цывілізаванай краіны». Інцыдэнт быў вычарпаны. З яго я вынес рэзюме, якое і хацеў бы перадаць усім, ад каго залежыць барацьба за «нормы нашага «мястэчка»:

– бясспрэчна, п'е ўвесь свет, але не ўсе ў гэтым свеце разумеюць – колькі ні пі, усяго не віп'еш;

– няма ідэальных народаў, якія навекі вечныя захоўваюць свой непагрэшны, «непітушчы» генетычны код;

– алкагалізм – не беларуская хвароба (пакуль?!). Але па законах фізікі – колькасць вадкасці, якая ў бутэльку ўліваецца, прама прапарцыянальная той, што выліваецца. Памятаць пра гэта павінна сама дзяржава – манапаліст вадкасці, яка ператварае чалавека ў...

**У. ВАЛОДЗЬКІН**

## Летапісец Мікола Гайба

Нядаўна выйшаў у свет бібліяграфічны паказальнік пад назвай «Летапісец Навагрудчыны».

У яго ўключаны асобныя раздзелы – «Навагрудак: гады і падзеі», «Магілкі і захаванні ў Навагрудку», «Навагрудак гістарычны: нарысы», а таксама артыкулы з многіх энцыклапедычных выданняў, газет і часопісаў, матэрыялы навукова-практычных канферэнцый, якія праводзіліся ў Навагрудку.

Аўтар іх – Мікола Гайба, гісторык-краязнавец, вядомы не толькі на Навагрудчыне, але і за яе межамі, дырэктар Дома-музея А. Міцкевіча ў Навагрудку. Складальнікі гэтага бібліяграфічнага паказальніка бібліёграфы М. Валенцюкевіч і І. Царук адзначаюць, што шматлікія гістарычныя даведкі – вынік працы навагрудчаніна-летапісца – ужо прыцягваюць увагу наведвальнікаў музея і чытачоў бібліятэк горада і раёна.

Мікола Гайба – прафесійны гісторык, чалавек, які заўсёды ў пошуках гістарычных каштоўнасцей сваёй роднай навагрудскай зямлі.

*Яўген ЛАПЦЕЎ*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**БАБІНАВІЦКАЯ КЕРАМІКА** – ганчарныя вырабы з вёскі Бабінавічы Лёзненскага раёна. Яна ўзнікла ў старажытныя часы, найбольш развілася ў XIX – 1-ай палове XX ст. Выраблялі чырвонагліняную непаліваную, чорназадымленую кераміку. З пачатку XX ст. пашырыліся вырабы, аздобленыя размалёўкай светла-жоўтым ангобам (тонкі слой гліны, які наносіцца на паверхню керамічнага вырабу перад абпальваннем, каб згладзіць няроўнасці і надаць вырабу пэўны колер) у выглядзе завіткоў, кропак, парасткаў і паліваныя ўсярэдзіне і звонку (у верхняй частцы) бясколернай палівай, якая ў залежнасці ад характару абпальвання надавала вырабам чырвона-карычневы ці зеленаваты колер. Акрамя гаспадарчага посуду (збанкі, гаршкі, спарышы, міскі, слоікі) майстры А. Траяноўскі, М. Шчадзінскі, А. Рыжкоў і іншыя выраблялі утылітарна-дэкаратыўны (цукарніцы, цукерачніцы, маслёнкі, вазы) і фігурны посуд у выглядзе фігур жывёл, а таксама цацкі, скарбонкі, попельніцы з лепкай.

**БАБІНАВІЧЫ** – вёска ў Лёзненскім раёне, на заходнім беразе Зелянскога возера. 30 км на паўднёвы захад ад Лёзна. На аўтамабільнай дарозе Лёзна–Арэхаўск.

У XVII–XVIII стст. – мястэчка. З 1777 года – павятовы горад. У 1781 годзе нададзены герб: на блакітным полі 2 мачты з флюгерамі. З 1796 года – заштатны горад Магілёўскай губерні. Развівалася вытворчасць ганчарных і керамічных вырабаў. У 1802–1840 гадах – цэнтр павета, з 1840-га – у складзе Ашмянскага павета. У 1905 годзе была царква, управа, пошта, тэлеграф.

У 2-й палове XVIII ст. Бабінавічы – паселішча з вуліцамі, якія сыходзіліся да гандлёвай плошчы, дзве з іх былі дарогамі на Віцебск і Оршу. У 1778 годзе зацверджаны праект планіроўкі Бабінавіч, паводле якога горад павінен быць перанесены на іншы бераг рэчкі Лучосы, упісаны ў чатырохкутнік, падзелены на кварталы і па перыметры абнесены валам. У цэнтры планавалася плошча з адміністрацыйнымі будынкамі, яшчэ дзве плошчы ва ўсходніх і заходніх частках. Праект не быў ажыццёўлены. Новы праект на канец XVIII ст. ажыццявіўся часткова.

Архітэктурна-планіровачную структуру сучаснай вёскі вызначаюць галоўная вуліца-шаша, якая ўздоўж возера перасякае яе з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, яна забудавана малапавярховымі дамамі. Нямала вуліц з аднапавярховікамі. Вытворчая зона ў паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. У Бабінавічах выяўлены археалагічны комплекс з трох неалітычных паселішчаў (III – II стст. да н. э.). Генплан 1972 года прадугледжваў развіццё вёскі ўздоўж правага боку аўтадарогі Лёзна – Арэхаўск.



Бабінец

**БАБІНЕЦ** – прыдняя частка культавага будынка, частка асноўнага аб'ёму пад хорамі (царква Сынковічы Зэльвенскага раёна, касцёл у вёсцы Дзеражная Стаўбцоўскага раёна) або самастойны аб'ём, які злучаны прамакутнім ці арачным праёмам з асноўным (царква Здзітава Жабінкаўскага раёна). На Беларусі вядомы з XI–XII стст. (Сафійскі сабор у Полацку), пашыраны ў архітэктуры XV–XVIII стст.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дасылаюць у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 19. 08. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1278.
Тыраж 1100.